

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamajca, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 579 Красавік 2011 г.
Год выданьня 61

## Паважаныя чытачы!

Перад вамі красавіцкі нумар газэты, які зьмяшчае інфармацыю пра падзеі, якія адбыліся напрыканцы сакавіка і за тры тыдні красавіка.

За гэты час сталася шмат чаго важнага і мы стараліся асьвятліць усе гэтыя падзеі.

25 сакавіка мы адзначалі 93-я ўгодкі абвяшчэньня БНР. Пададзеная тут геаграфія сьвяткаваньня сьведчыць пра тое, што ідэалы БНР сёньня захоўвае не толькі сама Рада БНР, але і шырокая беларуская грамадзкасьць па цэлым сьвеце.

11 красавіка ў Менскім мэтро адбыўся выбух, наступствы якога ўскалыхнулі ўсю Беларусь. Вакол гэтай падзеі ідзе шмат размоваў, выказваецца шмат меркаваньняў. Мы падалі ў газэце інфармацыю пра афіцыйную версію, выкладзеную уладамі, і меркаваньні звычайных людзей, якія выказаліся на сайтах.

Сёлета спаўняецца 25 гадоў Чарнобыльскай аварыі і гэтую тэму таксама нельга было абыйсьці ўвагаю.

Акрамя гэтых галоўных тэмаў у нумары падаецца шмат іншай інфармацыі пра навіны палітычнага жыцьця, у галіне культуры, пра жыцьцё беларускай дыяспары .

Віншуем таксама нашых чытачоў з Вялікоднымі Сьвятамі.

Мы працягваем выпуск дадаткаў да газэты. Гэтым разам падаем узятае з сайту “Нашай Нівы” зьмястоўнае інтэрвію Міколы Пачкаева пра дзейнасьць Рады БНР ў мінулым і сучаснасьці.

Як заўсёды, запрашаем да супрацоўніцтва, чакаем ад вас цікавых публікацый і паведамленьняў.

*Рэдакцыя*



***Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква Сьвятога КірылыТураўскага ў Брукліне віншуе ўсіх вернікаў з Вялікаднем і запрашае на сьвяточныя багаслужбы.***

Расклад набажэнстваў:

17 Красавіка, Нядзеля — Вербніца
Літургія і асвячэньне вярбы — 10:00 раніцы

21 Красавіка, Чацьвер — Вялікі Чацьвер
Свьятыя Пакуты Хрыстовы — 7:30 вечара

22 Красавіка, Пятніца — Вялікая Пятніца
Вячорня з Вынасам Сьвятой Плашчаніцы — 7:30 вечара

23 Красавіка, Субота — Вялікая Субота
Паўночня — 9:00 вечара

24 Красавіка, Нядзеля — Уваскарасеньне Хрыстовае
Ранішня — 00:00 уначы
Вялікдзень
Літургія — 00:30 уначы
Асвячэньне пасак — 1:30 уначы

***Хрыстос Уваскрос! Сапраўды Ўваскрос!***




## Адкрыты ліст да Беларускага народу заміж Вялікоднага віншаваньня

Дарагія суродзічы!

Вялікодныя сьвяты ў гэтым годзе супадаюць з адзначэньнем гадавіны вялікай бяды, якую давялося перажыць беларускаму народу ў канцы 20 стагоддзя. 26 красавіка спаўняецца 25 гадоў ад Чарнобыльскага злачынства. Таму ня ў сілах я жадаць Вам вясёлых сьвятаў, дарагія суродзічы! Хачу толькі сказаць сёньня, што Беларусы і людзі добрай волі ва ўсім сьвеце, якія ведаюць, што беларускі народ яшчэ ўсё жыве ў цяні Чарнобылю, будуць з Вамі ў гэтыя дні.

На жаль, сёньняшнія ўлады Рэспублікі Беларусь не толькі не апякуюцца сваім народам, пацярпелым ад страшных радыёнуклідаў, але і хочуць будаваць на беларускай зямлі новую ядзерную электрастанцыю, не праймаючыся ані Вашым здароў’ем, ані доляю Вашых дзетак. Яны забараняюць Вам нават прайсьці Чарнобыльскі Шлях у памяць тых людзей – часта Вашых родных, якія ўжо загінулі ад чарнобыльскай радыяцыі.

Над Вамі ізноў вісіць чорная хмара страху. Яшчэ пару месяцаў таму, пад час падзеяў 19 сьнежня мінулага голу, Вас білі, калечылі, зьнявольвалі, страшылі, каб лягчэй было распраўляцца з найбольш мужнымі між Вамі, з тымі, хто спадзяваліся дамагчыся для Вас нармальнага вольнага жыцьця. Цяпер, пры вельмі неясных абставінах, выбух у Менскім метро 11 красавіка.

На Беларускай зямлі аднаўляецца сталінскі тэрор.

Адна з нашых маладых гераіняў, мужнасьць якой была прызнаная ў далёкай Амэрыцы, гаварыла нядаўна пра нянавісьць, якая праяўляецца ў Беларусі супроць новага пакаленьня змагароў, супроць нашай актыўнай моладзі. Дадам, што паводле зьвестак, якія даходзяць да нас з Беларусі, мы бачым, што гэтая нянавісьць праяўляецца ў адносінах да ўсяго беларускага, супроць кожнага слова, сказанага ў абарону нашага народу, нашай зямлі, нашай спадчыны. Пад забаронаю нават кліч “Жыве Беларусь!”.

Праводзіцца бязьлітасны генацыд нашай нацыі. Рэжым не шкадуе нашай зямлі, яму абыякавы наш лёс, абыякавая будучыня нашых дзяцей, абы захаваць сваю бязьмежную уладу.

Нелегітымны “уладар” прызнаўся, што ён гатовы змагацца сілаю за ўладу, выкарыстоўваючы беларускае войска супраць беларускага народу, супроць Вас, дарагія суродізічы.

Якое права мае чалавек, якога вы выбралі на пяць гадоў 17 гадоў таму, распараджацца сёньня Вашым лёсам, Вашай зямлёю, Вашай будучыняю?

Якое права мае ён судзіць беларускіх дзеячоў, якія правініліся толькі сваёй ахвярнасьцю і сваёй заклапочанасьцю доляю беларускага народу?

Якое права ён мае страшыць вас, перасьледаваць сумленных людзей, як злачынцаў?

Якое права ён мае зьнявольваць Вас, кідаць у турмы Вашых дзяцей, марнаваць іхнае і вашае жыцьцё?

Хто яму даў гэтае права???

Хачу паўтарыць тут словы Папы Паўла II да свайго польскага народу ў цяжкія часы ягонай гісторыі: ”Ня бойцеся!”

Вы мацнейшыя! Паслухайце тых, хто ў турме меў час перадумаць падзеі апошніх 17 гадоў дыктатуры. Яны вераць ў Вас. Паверце ім! Бо толькі ў адзінстве народ зможа вызваліцца з няволі.

Прыйшоў час, калі нам трэба ачуняць, дарагія браты і сёстры – Беларусы, каб не загінуць!!!

*Жыве Беларусь!*
*Івонка Сурвілла*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*
*21 красавіка 2011*

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ



**Дастойнаму сьвятарству й вернікам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якія жывуць на Бацькаўшчыне і на Чужыне.**

*"...Хто верыць у Мяне, калі і памрэ,- ажыве" (Ян 11:25)*

Дарагія браты і сёстры ў Хрысьце!

Кожны год, сьвяткуючы галоўнае Хрысьціянскае Сьвята, не перастаем зьдзіўляцца тайне Уваскрашэньня Хрыста, бо гэтая падзея ёсьць доказам вечнага жыцьця, якая дае нам сілы перамагаць у сабе зло, імкнуцца дасягаць духоўнай вышыні і лучнасьці з Богам.

У гэтым годзе беларусы сустракаюць Вялікдзень, як і мінулыя Каляды, са смуткам у душы, бо ў часе Вялікага і Каляднага пастоў у Беларусі пралілася кроў. У абаіх выпадках ахвяры пакутвалі за свой народ, бо на іхным месцы мог апынуцца кожны. Асабліва мы сумуем па загінуўшых, але не таму, што ня верым у іхнае вечнае жыцьцё, а таму што нам больна разлучацца зза любові да іх – нашых суайчыньнікаў.

Уваскрашэньне Хрыста даказвае, што Ён ёсьць Богам і Ягонае вучэньне ёсьць сапраўдным і Ён, як Уладар Нябесны, не памыляецца. А памыляцца і несьці зло людзям могуць уладары зямныя, якія, не карыстаючыся Божымі Запаветамі, ствараюць "Чарнобылі" і "Курапаты", і якія часам не жадаюць, каб народ меў тую духоўную сілу, якая, яднаючы яго, дае яму упэўненасьць у неабходнасьці змагацца за праўду і разуменьне таго, што толькі свая нацыянальная дзяржаўнасьць зможа абараніць яго як этнас, і што чужыя Цэрквы ня будуць маліцца за яго.

Але ў сьвятле Хрыстовае перамогі жыцьця над сьмерцю, мы бачым, што дабро мацней зла.

Таму ў сваіх малітвах папросім Госпада, каб шлях, па якім Беларускі Народ нясе свой Крыж дзеля свайго сьцьвярджэньня ў вечнасьці, быў меней пакутным. І радасна павіншуем адзін аднаго:

Хрыстос Уваскрос! Уваскрэсьне Беларусь!

Зь любасьцю й малітвамі,

*+ Сьвятаслаў*

*Кіруючы Япіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы*

*Вялікдзень, 2011 л.Б*

## ВЕЛІКОДНЫЯ ДУМКІ



"Уваскрашэньня дзень! Прасьветлімся, людзі! Сёньня Пасха Гасподняя, пасха! Бо вось ад сьмерці да жыцьця і ад зямлі да неба Хрыстос Бог узьняў нас, якія пяём песьню перамогі".

Гэтымі словамі пачынаецца Велікодны гімн (канон) сьвятога Яна Дамаскіна.

Пасха – слова габрэйскага паходжаньня. Яно азначае выхад на волю з Эгіпту пад правадырствам Майсея абранага народу пасьля чатырохсотгадовага зьняволеньня. І вось гэтая падзея стала вобразам таго, што зьдзейсьніў Ісус Хрыстос, які сваім устаньнем зь мёртвых вызваліў нас зь няволі сьмерці, прывёўшы да вечнага жыцьця зь Ім.

Насамрэч гэта было абнаўленьне людзкога роду, акт новага тварэньня, як скажа пасьля сьвяты Павал: "Хто ў Хрысьце, той новае стварэньне: старое мінула, вось сталася ўсё новае" (2 Кар 5:17).

Вялікдзень – радаснае сьвята, але нельга забыцца, што яго апярэджвала Вялікая Пятніца, калі Госпад Ісус памёр на крыжы. Сам бязьвінны, Ён даў сябе ў ахвяру як выкуп за нашыя грахі. Сьвяты Пётра прыпамінае нам, што мы "адкупленыя... ня марным срэбрам ці золатам, але найдаражэйшай крывёю Хрыста, як ягняці беззаганнага і без пракуды" (1 Пт 1:18-19).

Габрэі, сутыкнуўшыся зь цяжкасьцямі жыцьця ў пустыні, куды іх вывеў Майсей, пачалі наракаць: "Лепш бы нам было памерці ад рукі Госпада ў зямлі Эгіпэцкай, калі мы сядзелі ля катлоў зь мясам, калі мы елі хлеба ўдосталь!" (Вых 16:3). Іншымі словамі, яны сталі перад выбарам між свабодаю з усімі яе цяжкасьцямі і тым, што звычайна называецца "чаркай і скваркай". У падобны спосаб і мы сёньня стаім перад выбарам: быць ці ня быць нам з Хрыстом, які памёр за нас і ўваскрос. Сьвяты Павал кажа: "Калі мы памерлі з Хрыстом, дык верым, што разам зь Ім жыць будзем" (Рым 6:8), бо "Калі Ён памёр, дык памёр раз для граху, а што жыве, дык жыве для Бога. Так і вы лічыце сябе памерлымі для граху, а жывымі для Бога ў Хрысьце Ісусе" (Рым 6:10-11).

Сёньня беларусы зьбіраюцца адзначаць Вялікдзень пад ценем жахлівых падзеяў, што днямі здарыліся ў Менску. Нашыя думкі і сэрцы з сем'ямі загінулых і з усімі пацярпелымі. У гэтых трагічных абставінах ці знойдзем мы ў сабе дастаткова духоўнай сілы, каб, – не адмаўляючы патрэбы знайсьці адказных за гэты ўчынак, за што яны павінны атрымаць згодна з вымогамі справядлівасьці, – адмовіцца ад нянавісьці, а пайсьці сьледам за Хрыстом, які на крыжы маліўся за тых, што яго ўкрыжавалі: "Ойча, прабач ім, бо яны ня ведаюць, што чыняць"(Лк 23:34)? Гэта быў бы першы крок да агульнага прымірэньня і духоўнага ацаленьня.

Хочацца закончыць гэтыя кароткія разважаньні словамі Велікоднай службы:

"Уваскрашэньня дзень! Прасьветлімся ўрачыстасьцю і адзін аднаго абдымем; скажам: "Браты" і тым, што ненавідзяць нас, прабачыўшы ўсё дзеля Ўваскрашэньня; і ўсклікнем вось так: Хрыстос уваскрос зь мёртвых, сьмерцю сьмерць зваяваў, і тым, што ў магілах, жыцьцё дараваў.

*а. Аляксандар Надсан*

*Вялікдзень 2011 г.*

# Дзень волі ў Беларусі і сьвеце

***"Тое, што мы адзначаем праз 93 гады гадавіну БНР, якую зьнішчалі неаднаразова, значыць, ідэя жывая. А калі жыве ідэя, то будуць і людзі, будуць прыхільнікі гэтай ідэі".***

*Так сказаў на сьвяткаваньні ў Гародні гісторык Алесь Смалянчук. Менавіта таму і зьмяшчаем мы ў гэтым нумары газэты інфармацыі пра сьвяткаваньне 25 Сакавіка на Бацькаўшчыне і ў розных беларускіх асяродках у сьвеце, каб сьцьвердзіць, што ідэя БНР жыве ў сэрцах усіх сьвядомых беларусаў, дзе яны не знаходзяцца ў гэты час.*




***Арганізатары сьвяткаваньня Дня волі ў Менску згоды адносна месца збору і формы сьвяткаваньня не знайшлі. Адныя адзначалі 25 Сакавіка ў сквэры імя Янкі Купалы, іншыя — на плошчы Якуба Коласа.***

***Аднак міліцыя зрабіла ўсё, каб перашкодзіць сьвяту: узяла ў аблогу пляцоўкі, на якіх зьбіраліся людзі, затрымала лідэраў, расставіла ў цэнтры гораду аўтазакі, аўтобусы са спэцназам, перакрыла выхады мэтро на плошчу Якуба Коласа.***



## Гамяльчан павіншавалі са святам

25 сакавіка гомельскія актывісты грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» сумесна з моладзевай ініцыятывай «Адраджэнне» правялі акцыю, прысвечаную Дню Волі.
У людных месцах горада актывісты разляпілі ўлёткі з віншаваннямі і бел-чырвона-белымі сцяжкамі, якія прапаноўваліся гараджанам у якасці маленькага падарунка да свята.

## Пінск

У Пінску сябры КХП БНФ традыцыйна 25 сакавіка наведалі магілу Рамана Скірмунта. Паводле сябра партыі Яўгена Шатохіна, каторы год існуе гэтая традыцыя:

"Пасьля таго як у Пінску стала немагчыма праводзіць пікеты, мы зьбіраемся каля магілы Скірмунта, прыводзім яе ў парадак. Тут жа праходзіць і невялікі імправізаваны мітынг, гучаць прамовы. Грамада Пінску памятае пра гэты дзень і ахвотна зьбіраецца".
Баранавічы

У Баранавічах сябры Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны павіншавалі гараджан са сьвятам незалежнасьці празь мясцовую газэту "Інтэкс-Прэс". Паводле словаў старшыні баранавіцкай рады Віктара Сырыцы, прайшлі і сьвяточныя мерапрыемствы:

"Мы ўсклалі кветкі каля крыжа, які ўсталяваны ў памяць ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Крыж таксама некалькі гадоў таму быў усталяваны намі ў сквэры на скрыжаваньні вуліц Берагова і Смаленскай. Паедзем на могілкі і ўскладзем кветкі на магіле тых, хто змагаўся за незалежнасьць Беларусі. Гэта найперш Аркадзь Блінкоўскі, Усевалад Кароль, Пятро Рашэтнікаў. Вечарам будзем адзначаць гэтую падзею ў коле сяброў".

## Раніца 25 сакавіка ў Віцебску - пад бел-чырвона-белымі сцягамі

Некалькі нацыянальнае сцягоў у цэнтры горада з нагоды Дня Волі вывесілі актывісты «Маладой Беларусі» і нефармальнага руху «Свабодны шлях». Бел-чырвона-белыя сцягі зьявіліся на флагштоках каля Лядовага палаца, Віцебскага дзяржаўнага універсітэта, а таксама на дахах «шматпавярховак» ў раёне скрыжавання вуліцы Чарняхоўскага і праспекта Будаўнікоў. Сцяг каля Лядовага палаца правісеў нядоўга: яго знялі супрацоўнікі мясцовай аховы. З флагштока каля універсітэта нацыянальны сімвал знялі міліцыянты, але яго паспелі пабачыць мінакі, якія раніцай ішлі па праспекце Перамогі. Сцягі над жылымі дамамі лунали ўсю раніцу.



## Берасьце

Сябры АГП, якія наведалі стадыён "Лякаматыў", адзначаюць, што галоўныя вароты стадыёну зачыненыя. Перад варотамі выкапана яма, каля якой стаіць тэхніка. На самім жа стадыёне будаўнічых працаў не вядзецца.

## У Гомелі ўшанавалі памяць Палуты Бадуновай

25 сакавіка ў Навабеліцкім раёне Гомелю грамадзкія актывісты ўсклалі кветкі да месца, дзе стаяў дом гомельскай настаўніцы, міністра Беларускай Народнай Рэспублікі Палуты Бадуновай.



Як апавёў старшыня абласной арганізацыі АГП Васіль Палякоў, апошнія гады гэта ўжо стала традыцыяй — ушаноўваць такім чынам памяць выбітнай дзяячкі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Гомельскія грамадзкія актывісты выступілі з ініцыятывай перайменаваньня цяперашняй вуліцы Георгія Дзімітрава ў гонар дзяячкі БНР Палуты Бадуновай. Аднак гарвыканкам адхіліў прапанову. Адмовіўся гарвыканкам і ўсталяваць мэмарыяльную шыльду ў гонар славутай зямлячкі, спаслаўшыся на тое, што дом не захаваўся.

Пасьля ўскладаньня кветак адбылася вечарына, прысьвечаная 93-м угодкам БНР. На ёй выступілі беларускамоўныя гомельскія барды.

## Горадня: там, дзе быў урад БНР

У Горадні група актывістаў адзначыла ўгодкі БНР. Спачатку былі ўскладзены кветкі змагарам за Бацькаўшчыну, затым адбылася экскурсія, тэмай якой сталі беларускія арганізацыі ў Горадні, падзеі, зьвязаныя зь дзеячамі БНР і знаходжаньнем у горадзе ў 1919 годзе яе ўраду.

Знак "Пагоня на Грунвальд" знаходзіцца побач з мурам, які атачае Калоскую царкву. Сюды прыйшлі некалькі актывістаў, каб ускласьці кветкі, паставіць бел-чырвона-белыя сьцяжкі і ўзгадаць Беларускую Народную Рэспубліку. Пра БНР гаварыў прафэсар Алесь Смалянчук:

"Тое, што мы адзначаем праз 93 гады гадавіну БНР, якую зьнішчалі неаднаразова, то, значыць, ідэя жывая. А калі жыве ідэя, то будуць і людзі, будуць прыхільнікі гэтай ідэі".

Пра Беларускую Народную Рэспубліку гаварыў малады гісторык Янка Лялевіч.



*Каля "Пагоні на Грунвальд" пра значэньне БНР гаворыць прафэсар Алесь Смалянчук*

# Дзень няволі!

Амаль 100 чалавек былі затрыманы ў Менску і рэгіёнах у дзень сьвяткаваньня Дня Волі ў Беларусі.



*Затрыманьне на плошчы Якуба Коласа.*

## Вільня

Таварыства беларускай культуры разам са Згуртаваннем беларускіх грамадскіх арганізацый 26 сакавіка 2010 г. у Вільні адзначыла чарговую гадавіну найвялікшага беларускага свята.




Імпрэзу распачаў старшыня ТБК Хведар Нюнька, які зачытаў віншаванне Прэзідэнта БНР Івонкі Сурвілы з нагоды чарговай гадавіны абвешчання БНР. Прэзідэнт Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый Літвы Раман Вайніцкі адзначыў, што без гэтага свята, без 25 сакавіка 1918 года, не было б сёньняшняй Беларусі. Сваю згоду святкаваць разам Дзень Волі патлумачыў так: „Беларусь у нас адна і дзяліць яе не мае сэнсу“.

Пасля гэтага старшыня ТБК Хведар Нюнька зрабіў Раману Вайніцкаму заўвагу, што той не меў права на Круглым стале, які адбыўся ў Рызе 12 сакавіка, выступаць ад імя ўсіх беларусаў Літвы з пратэстам супроц ўвядзення эканамічных санкцыяў у адносінах да беларускага рэжыму. У Літве дастаткова беларускіх грамадскіх арганізацый, якія не падзяляюць думку Рамана. Раман Вайніцкі спрабаваў патлумачыць сваю пазіцыю адносна сваёй адмоўнай пазіцыі да эканамічных санкцый, але нічога пераканаўчага з яго вуснаў не прагучала.

Аб падзеях 25 сакавіка 1918 года зрабіў даклад Артур Яўмен. Ён прысутным распавёў аб гісторыі стварэння БНР і тых падзеях, што папярэднічалі яе абвяшчэнню. Алена Базюк зрабіла даклад пра Максіма Багдановіча, аўтара "Пагоні":

Студэнт ЕГУ Уладзіслаў Гурыновіч распавёў аб падзеях плошчы 19 снежня 2010 г., непасрэдным удзельнікам якой з'яўляўся, а таксама аб падзеях 25 сакавіка ў Менску, у якіх таксама удзельнічаў. Беларускі студэнт з Польшчы Аляксей Буранок, які ўзначальвае ініцыятыву „Вольная Беларусь“ распавёў аб беларускім жыцці ў Варшаве. Ён адзначыў, што само польскае грамадства салідарызуецца з Беларуссю і беларускімі праблемамі.

На прыканцы імпрэзы быў паказаны фільм, які перанёс нас у Вільню 1997 года, калі адзначаўся Дзень Волі.

*Алесь Адамковіч*

Віленскае беларускае таварыства палітычных вязьняў і ссыльных па свойму адзначыла сьвята. Сябры суполкі 24 сакавіка сабраліся на могілках Росы, дзе ўсклалі кветкі на магілы братоў Івана і Антона Луцкевічаў . У прамовах адзначалася ахвярная праца братоў Луцкевічаў ў справе адраджэньня беларускай нацыі і дзяржаўнасьці.

На наступны дзень суполка правяла імпрэзу, дзе працягвалася сьвяткаваньне. Пад час імпрэзы прагучалі выступы з асуджэньнем вядомай заявы кіраўніка Аб'яднаньня беларускіх арганізацый Літвы Рамана Вайніцкага ў падтрымку беларускіх уладаў.

*Павал Саўчанка*

## Швэцыя

У Стакгольме суполка "Беларусы Швэцыі" правяла сьвяточную вечарыну. Аадбыўся прагляд фільму аб апошніх падзеях у Беларусі, удзельнікі напісалі беларускую дыктоўку .

## Латвія

У суботу 26 сакавіка ў Рызе ў будынку Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў прайшоў прымеркаваны да ўгодкаў незалежнасьці БНР сход Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак".

## Бэльгія

У Бэльгіі, апрача традыцыйнага сьвяточнага набажэнства ў беларускай Царкве ў Парафіі Сьв. пакутніка Язафата Полацкага і Ўваскрэсеньня Хрыстовага ў Антвэрпэне ў суботу, 26 сакавіка, прайшло шмат імпрэзаў. Беларусы з Бэльгіі і суседняй Францыі разам з раднымі БНР ушанавалі памяць беларускага дзеяча, раднага БНР Янкі Жучкі, а таксама правялі сьвяточны пікет у цэнтры бэльгійскай сталіцы. Сьвяткаваньне ладзіла Беларуска-эўрапейскае задзіночаньне.

ВЯЛІКАЯ БРЫТАНІЯ

У суботу, 26 сакавіка, імпрэзы да Дня Волі ладзілі беларускія суполкі Вялікай Брытаніі у Беларускім доме ў Лёндане

## ЗША

У тых беларускіх асяродках, дзе падтрымліваецца традыцыя беларускамоўных набажэнстваў, урачыстасьці да Дня Волі прайшлі ў нядзелю, 27 сакавіка, пасьля багаслужбаў.

# Сьвяточная імпрэза ў Нью-Ёрку

У нядзелю, 27 сакавіка 93-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі адзначалі беларусы ў Нью-Ёрку. Сьвяточную імпрэзу ладзіў Бруклінскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў грамадзкай залі пры Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлянтык Авэню. Перад пачаткам імпрэзы ў Саборы адбылася Багаслужба і Малебен за Беларусь, за сёньняшніх змагароў за вольную і незалежную Бацькаўшчыну, хто адзначае сьвята ў вязьніцах. Прысутныя ўрачыста зачыталі супольна малітву за Беларусь і прасьпявалі гімн "Магутны Божа". Пры гэтым царкоўную залю па сьвяточнаму ўпрыгожвалі ўнесеныя сьцяганосцамі амэрыканскі і наш бел-чырвона – белы сьцягі.

Пасьля сьвяточнага абеду пачалася ўрачыстая акадэмія, якую адчыніў старшыня Бруклінскага аддзелу сп. Расьціслаў Гарошка, далей ён папрасіў весьці акадэмію сп. Юрася Зяньковіча. Рэферат пра падзеі сакавіка 1918 года ў Менску, дзякуючы якім паўстала незалежная Беларуская Дзяржава, прачытала сп-ня Галіна Падлеская.

Пра падзеі пачатку 90-х гадоў, калі Беларусь ізноў пасьля савецкага панаваньня адрадзіла сваю дзяржаўную незалежнасьць, распавёў сп. Зянон Пазьняк. Пра сучасную дзейнасьць Рады БНР гаварыў намесьнік старшыні Рады БНР сп. Вячка Станкевіч.

Удзельнікі імпрэзы прынялі Рэзалюцыю з асуджэньнем сучаснай палітыкі беларускага рэжыму і ў падтрымку палітычных вязьняў.

Былі зачытаныя віншаваньні ад старшыні Рады БНР сп-ні Івонкі Сурвіллы, ад Уладыкі Сьвятаслава, ад іншых беларускіх суполак і асабістыя




віншаваньні.

Асаблівы сьвяточны настрой стваралі прыгожа ўбраная заля ў бел-чырвона-белых колерах, выстава, партрэты прэзыдэнтаў Рады БНР на сьценах. Быў арганізаваны продаж беларускіх кнігаў. Кожны мог прагледзець і пачытаць сьвежы сакавіцкі нумар газэты "Беларус", якая была надрукавана ў каляровым аздабленьні менавіта да 25 Сакавіка.

Мастацкая частка Сьвята была падабраная з добрым густам, дзякуючы намаганьням Алы Орсы Рамана і Таццяны Красоўскай. Чыталіся вершы Янкі Купалы, Рыгора Барадуліна. Маладошыя ўдзельнікі сьвята - дзеці, якія нарадзіліся і выраслі ў Амэрыцы ў беларускіх сем'ях, надавалі залі асаблівы аптымістычны настрой, калі з імпэтам сьпявалі і чыталі вершы на добрай беларускай мове. Ульляна Драгакупец сыграла на піяніна вальс Шапэна.

Быў паказаны фрагмэнт відэазапісу сьвяткаваньня 75-х угодкаў БНР ў сакавіку 1993 году ў Менскай філярмоніі.. З экрана прысутныя слухалі па-майстэрску і з вялікай эмацыянальнай сілаю прадэклямаваны Данчыкам твор Сяргея Палуяна "Хрыстос Уваскрос!", які гучыць актуальна да сёньняшняга часу.

Узрушаныя слухачы ўжо з цяжкасьцю хавалі сьлёзы, калі з экрана гучала "Малітва за Беларусь" у сольным выкананаьні Уладзіміра Мулявіна.

З вялікім натхненьнем і самі ўдзельнікі сьвята прасьпявалі на ягонае завяршэньне наш неўміручы гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

*Ганна Сурмач*
*Нью-Ёрк*



# Пра каго я думаю 25 Сакавіка



**Сяргей Абламейка, Прага**

Ідучы на Альшанскія могілкі ў Празе, дзе праскія беларусы зьбіраюцца два разы на год, каб ушанаваць памяць прэзыдэнтаў БНР, я думаў пра апошнія 93 гады беларускай гісторыі.

Спачатку думаў змрочна. Цэлыя 93 гады назад, амаль стагодзьдзе! І ні рэальнай беларускай дзяржавы, ні рэальнай незалежнасьці. Усё яшчэ Зноскі кіруюць, а людзі ўсё яшчэ польшачацца і русыфікуюцца...

І тут жа – іншая думка. Стаім мы, чалавек 35-40, трымаем наш сьцяг, гаворым па-беларуску, сьпяваем па-беларуску, молімся па-беларуску. Калі добра ведаеш, што адбылося з нашым народам у апошнія 200-300 гадоў, то разумееш – які гэта цуд! Сапраўды Божы цуд, што пасьля ўсяго гэтага – пасьля Патопу, пасьля зьнішчэньня нацыянальнай царквы, пасьля паўстаньняў, войнаў, рэпрэсіяў, пасьля татальнага абрабаваньня культурных і людзкіх рэсурсаў, пасьля забойства практычна ўсіх інтэлектуалаў першай паловы ХХ стагодзьдзя і тальнага разбурэньня гістарычных цэнтраў гарадоў і шляхецкіх сядзібаў – МЫ ЯШЧЭ ЁСЬЦЬ! Мы стаім і гаворым па-беларуску...

Так ёсьць таму, што некалі беларускай справе ахвяраваліся, сярод іншых, і Пётра Крачэўскі з Васілём Захаркам, ля магілаў якіх мы стаім. Яны – сапраўдныя героі Беларусі. Яны заслугоўваюць на нашу і нашых нашчадкаў вечную і ўдзячную памяць.

А тым часам наша краіна і наш народ нараджаюць новых героя. Я бачу іх на здымках з судовых працэсаў, якія цяпер ідуць у Менску. Бачу за кратамі судовых клетак, у судовых залях, у вэстыбюлях і на ганках судоў. Многія ў шаліках нацыянальных колераў... Беларусь жыве там, найперш там. У Менску і ў рэгіёнах, у гарадах і вёсках.Невытлумачальна-мэтафізычна, насуперак усім стратам апошніх трох стагодзьдзяў.

І ля магілаў айцоў БНР у 2011 годзе я думаю пра тых, каго ў Менску ўжо асудзілі і каго яшчэ асудзяць. Асабліва пра 30-гадовага хлопца Зьмітра Дашкевіча, чалавечы кшталт якога параўнальны з кшталтам Кастуся Каліноўскага. Больш за 10 гадоў ён выходзіць на мітынгі і пікеты, яго б'юць у кроў да непрытомнасьці, судзяць і садзяць у турму, а ён выходзіць, залечвае раны, ні на каго не крыўдуе і не ўцякае зь Беларусі – ён ня п'е, ня курыць, ён верыць у Бога і любіць Беларусь. Я думаю, ён сапраўдны герой. Як і ўсе яго паплечнікі з "Маладога Фронту". Усе, хто быў зьбіты, хто ўжо адседзеў і хто яшчэ адседзіць за лепшую долю.

## Варшава

Жыхары Варшавы цэлы дзень хадзілі па горадзе з бел-чырвона-белымі расцяжкамі, а на канцэрце можна было пабачыць... Лукашэнку!

Канцэрт прайшоў з удзелам вядомых беларускіх і польскіх музыкаў, такіх як Maleo Reggae Rockers, Akurat, Януш Сташэўскі, «Крама», «Рэха», Вінцэнт і іншыя, Акрамя канцэрту, у гэты ж дзень, 27 сакавіка, ініцыятыва «Wolna Białoruś» правяла «апазіцыйную» гарадскую гульню і пераможцы былі ўзнагароджаны ўжо ўвечары падчас канцэрту. Падчас канцэрту на сцэне з'явіўся «Лукашэнка» з двума «супрацоўнікамі КДБ», якія правялі невялікі перфоманс: «прэзідэнт» пафарбаваў Палац культуры і навукі ў «камуністычны» колер.




## Лодзь

25 сакавіка ў польскім горадзе Лодзь прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя Дню Волі.

На факультэце міжнародных адносінаў Лодзьскага універсітэта прайшла сустрэча са студэнтамі і выкладчыкамі, прысвечаная апошнім падзеям у Беларусі. У якасці спікераў у ёй прынялі ўдзел Андрэй Кім і польскі рэжысёр Ян Тальчэўскі.



Пазней адбылася акцыя салідарнасці з Беларуссю. У ёй прыняло ўдзел каля паўсотні беларусаў і палякаў.

## Беласток

Радыё "Рацыя", тыднёвік беларусаў у Польшчы "Ніва" і Беларускі саюз у Польшчы правялі 25 сакавіка ў пятніцу сьвяткаваньні Дня Волі ў Беластоку ў культурным цэнтры на вуліцы сьвятога Роха,1, а ў суботу ў Фарным касьцёле Беластоку – прайшла беларускамоўная імша, прысьвечаная ўгодкам БНР.

## Дзень Волі ў Кіеве

25 сакавіка ў Кіеве, каля будынка амбасады Рэспублікі Беларусь, актывісты УА «Свобода» правялі акцыю салідарнасці з беларускімі патрыётамі.



## Севастопаль

93-ю гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і адначасова дзень салідарнасці з палітычнымі зняволенымі Беларусі адзначылі сябры Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максима Багдановіча "Пагоня". 25 сакавіка а 12 гадзіне ля плошчы адмірала Нахімава ў Севастопалі былі ўсталяваны бел-чырвона-белы сцяг, сімвалічны факел Свабоды, герба Пагоня і расцяжка з надпісам "Жыве Беларусь! Свабода, Незалежнасць, Дзяржаунасць".

Пікет пачаўся малебнам у памяць герояў, якія змагаліся за свабоду і незалежнасць беларускага народа і за тых, хто сёння адстойвае сапраўдную незалежнасць і дэмакратыю на Бацькаўшчыне. Удзельнікі пікету выказалі салідарнасць з ахвярамі палітычных рэпрэсій у Беларусі.

*Старшыня таварыства "Пагоня"*
*Валеры Барташ*

## Акцыя у Парыжы

25 сакавіка беларускія эмігранты правялі акцыю салідарнсьці з палітзьняволенымі ў Беларусі каля Беларускай амбасады ў Парыжы.У амбасаду быў перададзены ліст да Лукакшэнкі, у якім гаварылася:

"Гэты ліст не просьба, гэты ліст – заклік да адраджэньня гуманнасьці ў Беларусі. Мы, беларускія эмігранты ў Францыі, не можам і не маем права заставацца ў баку ад таго, што адбываецца на Радзіме і адрасуем гэты ліст апошняму дыктатару Эўропы – гэта значыць Вам, Аляксандр Рыгоравіч.

….За 16 гадоў панаваньня Вы ператварылі усю краіну ў канцлягер. Кожны чалавек ў Беларусі з'яўлячецца палітзьняволеным, ведае ён пра гэта, ці не, кожны беларус пазбаўлены свабоды слова, дзеяньняў, выбару, пазбаўлены права на самарэалізацыю, на выбар сваёй будучыні…..

Мы заклікаем Вас вызваліць беларусаў ад тыраніі і страху і пакінуць пасаду прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, якую Вы займаеце незаконна…"



## Дзень Волі ў Празе

Сьвяточная імпрэза ў гонар Акту 25 сакавіка 1918 г. адбылася 26 сакавіка ў самым цэнтры чэскай сталіцы, у найстарэйшай праскай царкве Сьвятых Кузьмы і Дзям'яна пачатку X ст.

Сьвяткаваньне пачалося з урачыстага набажэнства, у якім узяў удзел грэка-каталіцкі экзарх Чэхіі біскуп Уладыслаў Гучка. Была прачытаная малітва за Беларусь. Падчас набажэнства і пасьля, у сьвецкай частцы імпрэзы, сьпяваў міжпарафіяльны хор «Прасфара» пад кіраўніцтвам Марысі Янушкевіч. Гэта менскі хор, што прыехаў у Прагу адмыслова на сьвяткаваньне Дня волі.

Свой дакумэнтальны сэрыял "Сьцяна" прадставіў журналіст Вячаслаў Ракіцкі

Імпрэза скончылася канцэртам аўтара і выканаўцы ўласных песень Яўгена Барышнікава.



## Дзень Волі ў Сыднэі

25 сакавіка беларусы аўстралійскага Сыднэю спаткаліся разам, каб адзначыць угодкі абвяшчэньня БНР. Сьвяточную імпрэзу адкрыў старшыня беларускай суполкі сп. Лявон Дзядуля. Ён адзначыў, што беларускія эмігранты ў Сыднэі штогод адзначаюць гэтае найвялікшае сьвята і прачытаў рэферат на тэму БНР. Сп. Яўгенія Супрунюк зачытала зварот- віншаваньне ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілла. Прысутныя ўшанавалі хвілінаю маўчаньня памяць былых актыўных сяброў Беларускага клюбу, якія нядаўна адыйшлі у вечнасьць – Васіля Марчанкі і Аляксандра Бакуновіча

Ад імя беларускай грамады ў Нью-Джэрзы сяброў клюбу прывітала сп. Людміла Бакуновіч, якая прыехала з Амэрыкі і была госьцем на сьвяце.

На завяршэньне сп. Міхась Лужынскі пранікнёна задэклямаваў беларускі верш.

*Яўгенія Супрунюк*
*Сыднэй*

# Дзень Волі ў Канадзе

26 сакавіка 2011 г. у Таронта адбылося сьвяткаваньне Дня Волі, арганізаванае Згуртаваньнем беларусаў Канады. Ня толькі таронтаўскія беларусы, але і жыхары навакольных гарадоў сабраліся на плошчы Нэйтан Філіпс каля будынку Гарадзской управы (City Hall), каб адзначыць угодкі ўтварэньня БНР і падтрымаць змагацца з дыктатурай на Бацькаўшчыне.

Мітынг распачаўся гукамі дуды - старадаўнія беларускія мэлёдыі прагучалі ў выкананьні Хведара Апейкі. Вядучы мітынгу Зьміцер Эльяшэвіч зачытаў вітальнае слова Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы. Старшыня ЗБК Валянціна Шаўчэнка ўзгадала гісторыю станаўленьня БНР і расказала аб тым, як на працягу гадоў



Беларускія сьцягі каля будынку Гарадзкой управы



Выступае гурт "Яваровы людзі"

сьвяткаваньне 25 Сакавіка паступова стала днём пратэсту супраць рэпрэсіўнай улады, Днём Волі – днём вызваленьня.

Вядомая беларуская пісьменьніца Вольга Іпатава, якая гасьцюе зараз у Канадзе, у сваем выступе падкрэсьліла, што і пасёньня беларуская мова пачувае сябе падчаркай у роднай хаце і што так званыя «чорныя сьпісы» аб забароне друкавацца і выступаць з канцэртамі творчым людзям Беларусі, што выступілі супраць рэпрэсій, ужо дзейнічаюць.

З асуджэньнем рэпрэсій і заклікам усебакова спрыяць дэмакратычным пераменам у Беларусі выступілі прафэсар унівэрсытэту Ватэрлоо Зінаіда Гімпелевіч і Алесь Кот.

Удзел у мітынгу ўзялі таксама міністар грамадзянства і эміграцыі Канады Джэйсан Кеньні і дырэктар па сувязях з грамадскасьцю Канадыйскага камітэту за дэмакратычную Беларусь Майкл Лускінд. Яны падкрэсьлілі, што канадыйскі ўрад уважліва сочыць за падзеямі ў Беларусі і падтрымлівае імкненьне да дэмакратычных пераменаў у гэтай краіне.

У рэзалюцыі мітынгу прагучалі патрабаваньні неадкладна вызваліць усіх палітвязьняў, перапыніць усе крымінальныя справы супраць удзельнікаў мірнага шэсьця 19 сьнежня, спыніць перасьлед творчай інтэлігенцыі, нязгоднай з рэжымам, правесьці справядлівыя і сумленныя выбары без удзелу Лукашэнкі, а таксама спыніць генацыд беларускай мовы і надаць ёй не папяровы, а рэальны статус дзяржаўнай.

Выступленне сьпеўнага гурту “Яваровы людзі” пад кіраўніцтвам Віялеты Кавалёвай і гімн “Магутны Божа”, які падхапілі ўсе прысутныя, сталі прыгожым і натхнёным завяршэньнем Дня Волі ў Канадзе.

# Аттава

Сёлета, як і ў мінулы год, святкаванне Дня Незалежнасці БНР праходзіла у Hintonburg Family Centre, што на Wellington Road. Зала была убрана бел-чырвона-белымі сцягамі, а таксама аплікацыямі з выявамі “Пагоні” і гербаў гарадоў Беларусі, зробленыя ў сям’і Сурвіллаў.

Урачыстая частка пачалася з малітвы за Беларусь, якую прачытаў Уладыка Святаслаў, першагерарх БАПЦ. Вёў акадэмію сп. Пётр Мурзёнак, кіраўнік Аттаўскага аддзела Згуртавання Беларусаў Канады. Далей ён запрасіў да трыбуны Старшыню Рады БНР, сп. Івонку Сурвілла. Яна павіншавала прысутных са святам і зачытала зварот да беларускага народа з нагоды 93-й гадавіны Абвяшчэння Дня Незалежнасці БНР. З вялікай цікавасцю удзельнікі свята праслухалі даклад госці з Менску, кандыдата гістарычных навук, сп. Натальлі Гардзіенкі. Пасля невялікага перапынку пачаўся канцэрт. Як заўсёды з задавальненнем прысутныя слухалі сьпевы гурта “Яваровыя людзі” з Таронта. У гэтым годзе калектыву, які узначальвае Віялета Кавалёва, будзе 10 год. Прысутныя былі зачараваныя голасам Валянціны Шаўчэнкі, якая выканала песьню на верш Ларысы Геніюш і рамансы пад акампанемент Міхаіла Рыкава, які іграў на гітары. Міхаіл Рыкаў і Влада Шамецька ўжо некалькі год як стварылі дуэт “Кантабіле”. Канцэрт закончыўся бальнымі танцамі.

*Пётра Мурзёнак*
*Атава*

# Сустрэча з беларускаю дактаранткаю з Прагі

13 сакавіка ў царкоўна-грамадзкай зале Сабору св. Кірылы Тураўскага на Atlatic Ave 401 адбылася сустрэча сяброў Бруклінскага аддзелу БАЗА з беларускай дактаранткаю з Прагі Ганнаю Васілевіч. Тэма яе навуковай працы - “Беларуская нацыянальная ідэнтычнасьць”. З дакладам на гэтую тэму яна прыехала ў Нью-Ёрк для ўдзелу ў навуковай канфэрэнцыі ў Калюмбійскім універсытэце, якая праходзіла 15 сакавіка.

У гэтай канфэрэнцыі з беларускаю тэматыкаю таксама выступалі Алена Гапава з Беларусі, Аляксандра Гужон з Францыі і Алесь Пагарэлы, які цяпер стажыруецца ў Цэнтры беларускіх студыяў ў Канзасе.

Ганна Васілевіч цікава распавяла пра сучасную актуальнасьць яе навуковай працы дзеля таго, каб беларусы ўспрымаліся ў сьвеце, як самастойная нацыя. Яна таксама гаварыла пра жыцьцё і дзейнасьць беларускіх студэнтаў у Празе і адказала на шматлікія пытаньні прысутных.

*Ганна Сурмач*

Дадатак да газэты "Беларус"

# Рада Беларускай Народнай Рэспублікі - захавальнік нацыянальнай дэмакратычнай дзяржаўнай традыцыі для Беларусі

*Сёньняшняя палітычная сытуацыя ў Беларусі прымушае беларусаў на Бацькаўшчыне і ў замежжы задумацца пра лёс краіны - пра мінулае, сучаснасьць і будучыню беларускай дзяржаўнасьці. Уласная дзяржаўнасьць – гэта адзіная гарантыя і магчымасьць захаваньня і далейшага разьвіцьця беларускай нацыі. Але, як мы пераканаліся, найперш важна тое, каб гэтая дзяржаўнасьць была пабудаваная на дэмакратычных прынцыпах. Сёньняшняя дыктатура ў самастойнай Беларусі нішчыць нашу дзяржаватворную нацыю.*

*Беларускі народ, аднак, мае свае традыцыі, гістарычныя карані і практычны вопыт незалежнага, дэмакратычнага дзяржаўнага будаўніцтва, пачынаючы з часоў сярэдневечча. Пасьля стагоддзяў страты дзяржаўнай незалежнасьці беларусам пасьля распаду Расейскай імперыі, а потым і Савецкага Саюзу ўдалося аднавіць сваю дзяржаўную незалежнасьць. 25 Сакавіка 1918 году беларускія палітыкі- адраджэнцы здолелі ажыцьцявіць сваю мару і дабіліся абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). БНР, як дзяржава, была зьнішчана маскоўскімі бальшавікамі, але не была зьнішчаная сама ідэя беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці, якую захавала на выгнаньні да сёньняшняга дня Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Менавіта, дзякуючы абвяшчэньню БНР была створаная Беларуская савецкая рэспубліка, а потым ў 1991 годзе абвешчана незалежная Рэспубліка Беларусь. Але, і гэтым разам нам не ўдалося ажыцьцявіць на практыцы ідэалы БНР, як дэмакратычнай дзяржавы. Устанаўленьне дыктатарскай улады ў Беларусі перапыніла прагрэсіўнае, свабоднае разьвіцьцё беларускай нацыі і дзяржаўнасьці.*

*Але, ідэалы БНР захоўвае і разьвівае ў новых умовах дзеючая да сёньня на выгнаньні Рада БНР, якая можа перадаць свае мандаты і сваю функцыю захавальніцы ідэі беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці толькі дэмакратычнай уладзе ў Беларусі.*

*Што ёсьць сёньня Рада БНР, яе дзейнасьць на выгнаньні , значнасьць захаваньня гэтай палітычнай структуры ў сучасных умовах – гэтыя пытаньні цікавяць нашых чытачоў і шмат іншых беларусаў, каму неабыякавы лёс сваёй краіны.*

*Дзеля гэтага мы передрукоўваем у дадатку да гэтага нумару "Беларуса" грунтоўнае і на наш погляд заслугоўваючае ўвагі беларускай грамадзкасьці інтэрвію Алеся Чайчыца з Сакратаром інфармацыі Рады БНР сп. Міколам Пачкаевым, якое было выстаўлена на сайце газэты "Наша Ніва" 6 і 11 красавіка пад назваю - Навошта нам Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) ?*

*Рэдакцыя*



*Мікалай Пачкаеў нарадзіўся ў 1973 г. у Менску. Выпускнік БДУ, Цэнтральнаэўрапейскага і Кэмбрыджскага ўнівэрсытэтаў, актывіст БНФ з 1989 па 2006 гг., адзін з кіраўнікоў Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. Працуе тэхнічным перакладчыкам і аналітыкам міжнароднай палітычнай рызыкі і інвэстыцый.*

**Алесь Чайчыц(далей - АЧ): Пачнем зь месца ў кар'ер: адразу папярэджу, што сёньня буду выступаць у ролі «адваката д'ябла» і буду задаваць дурныя і непрыемныя пытаньні. Беларуская Народная Рэспубліка, утварылася ў 1918 г., Рада БНР — яе парлямэнт, які потым апынуўся на эміграцыі і абараняў інтарэсы незалежнасьці і дэмакратыі ў Беларусі. Але на сёньняшні дзень, па-першае, Беларусь ужо дваццаць гадоў як незалежная паўнавартасная дзяржава, усімі прызнаная, з амбасадамі, сьцягам і гербам (якія б ні былі), сталіцай, валютай і так далей. Па-другое, у Беларусі ёсьць дастаткова масавая дэмакратычная апазыцыя, якая рэальна змагаецца і можа дасягнуць дэмакратыі ў краіне. Навошта нам Рада БНР у гэтых умовах?**

**Мікалай Пачкаеў (далей – МП):** Сапраўды, Рада БНР мусіла бы, і яна ставіць такую статутную мэту, перадаць свае гістарычныя паўнамоцтвы на карысьць улады ў Беларусі. Менавіта гэта зрабілі ўсе экзыльныя дзяржаўныя ворганы ўсіх пост-камуністычных краінаў, як Польшча, Украіна, краіны Балтыі.

Але тыя перашкоды, якія не дазвалялі ажыцьцявіць гэткую перадачу ў ранейшыя гады, застаюцца і цяпер.

Паводле свайго Статуту Рада БНР павінна спыніць існаваньне і перадаць свой гістарычны мандат на карысьць уладаў Беларусі пры ўмове, што ў Беларусі паўстане ўлада, якая будзе адпавядаць Прынцыпам 25 сакавіка — прынцыпам дэмакратычнай беларускай нацыянальнай незалежнай дзяржаўнасьці. У Беларусі такой дзяржавы дагэтуль не паўстала. У гэтым яе адрозьненьне ад згаданых пост-камуністычных краінаў.

Можна было спадзявацца, што гэта адбудзецца пасьля 1991 года, але далей адбылося пэўнае, я бы сказаў, перараджэньне характару дзяржавы ў Рэспубліцы Беларусь. Тады Рада БНР не змагла перадаць свае паўнамоцтвы, бо не было дэмакратычна абранага прадстаўнічага воргана. Вярхоўны Савет [12. скліканьня] быў абраны яшчэ ў часы БССР і мы ня можам лічыць яго прадуктам свабодных выбараў. Акрамя гэтага, пры такой уладзе, якой передала бы паўнамоцтвы Рада БНР, незалежнасьць Беларусі не павінна ўжо быць пад пагрозай, гэта таксама адзін з ключавых прынцыпаў Рады БНР. Пры ўрадзе Кебіча будучыня беларускай незалежнасьці таксама не выглядала адназначна.

**АЧ: А ўладам Беларусі пачатка 90-х было гэта цікава атрымаць гэты мандат? Ці ведалі яны ўвогуле, што такая Рада БНР існуе?**

**МП:** Так, [міністар замежных справаў Беларусі ў 1990—1994 гг. Пятро] Краўчанка вёў папярэднія перамовы з тагачасным Старшынём Рады БНР Язэпам Сажычам і гэтае пытаньне кіраўніцтвам Рады разглядалася.

Але, як я казаў, тады не існавала адпаведнага дэмакратычна абранага воргану ўлады і ўжо былі пэўныя сумневы адносна таго, у які бок разьвіваецца сытуацыя ў Беларусі. Кебіч і той жа Краўчанка выступалі за далучэньне Беларусі да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы, г.зн. вайскова-палітычны саюз з Расеяй, ужо ішлі размовы пра прыняцьце расейскай валюты, а ўжо далей, праз невялікі тэрмін, быў зьняты з пасады Шушкевіч і сытуацыя зусім відавочна пайшла ў іншы бок.

АЧ: Акрамя таго, што гэта нейкі сымбалічны дзяржаўны ворган, які працягвае традыцыі той улады, якая была ў Беларусі некалькі месяцаў у 1918 г., якую практычную карысьць прынесла дзейнасьць Рады?

МП: Перадусім, на працягу ўсяго пэрыяда перад аднаўленьнем незалежнасьці Беларусі Рада БНР выступала голасам дзяржаўных інтарэсаў Беларусі ў стасунках зь міжнароднай супольнасьцю.

**АЧ: Але як жа ўрад БССР? Прадстаўнікі Савецкай Беларусі сядзелі ў ААН, таксама яна была прадстаўленая савецкім урадам.**

**МП:** Так, прадстаўніцтва БССР, як складовай часткі іншай дзяржавы, СССР, галасавала ў ААН, але не рэалізоўвала ў гэтым якогась уласнага дзяржаўнага сувэрэнітэту, фактычна не выступала тады ад свайго ўласнага імя, ад імя нацыянальных інтарэсаў уласна Беларусі як незалежнай дзяржавы — як яно мусіла бы інакш выступаць. Такім голасам незалежнай беларускай дзяржаўнасьці ў сьвеце заставалася Рада БНР, і прэзыдэнты БНР выступалі ў такой якасьці ўвесь гэты час.

**АЧ: А што яны рабілі? Як гэта выглядала?**

**МП:** Сярод іншага, Рада займалася камунікацыяй з прадстаўнікамі міжнароднай супольнасьці, з урадамі найбольш уплывовых дзяржаваў. Акрамя таго, Мікола Абрамчык, паваенны Старшыня Рады, быў адным з арганізатараў Руху народаў, якія былі пад камуністычным панаваньнем — кааліцыі урадаў на выгнаньні падкамуністычных краінаў. Такім чынам ён здабыў вялікі ўплыў у міжнароднай палітыцы праз розныя палітычныя інструмэнты.

Таксама ў той пэрыяд можна згадаць важкую ролю Рады БНР у арганізацыі Беларускай сэкцыі Радыё «Вызваленьне», якое потым стала Радыё «Свабода».

**АЧ: То бок, нейкі лябізм, пастаноўка пытаньняў…**

**МП:** Калі б мы разглядалі Раду БНР як недзяржаўную арганізацыю, мы б назвалі

такі род дзейнасьці «лябізмам», аднак статус Рады БНР адрозніваецца ад статусу недзяржаўнай або гуманітарнай арганізацыі.

Рада БНР ў не-камуністычным сьвеце выказвалася і прадстаўляла інтарэсы Беларусі менавіта як яе нацыянальныя інтарэсы, у якасьці дзяржаўнага воргана Беларусі на выгнаньні, калі не існавала голасу незалежнай Беларусі на міжнароднай арэне. Або ў нашы часы, калі дзяржаўная ўлада, якая дзейнічае ў Беларусі, не зьяўляецца, на думку Рады, у поўнай меры належным увасабленьнем нацыянальнай дзяржаўнасьці, якую Беларусь мусіць мець.

**АЧ: Якіх яшчэ вынікаў удалося дасягнуць? «Радыё Свабода» — гэта добра, акрамя гэтага як? Ці атрымалася ў амэрыканцаў, брытанцаў неяк падвысіць вядомасьць Беларусі і яе інтарэсаў?**

**МП:** Перадусім, вынікам працы ўсяе беларускае эміграцыі, і ў вялікай ступені менавіта Рады БНР, ёсьць вядомасьць на Захадзе і ў шырокім сьвеце аб Беларусі як аб адметнай краіне, якая мусіць быць незалежнай. Гэтая праца вялася на працягу ўсяго пасьляваеннага пэрыяду, а нават і пачынаючы з Парыскай мірнай канфэрэнцыі 1919 году і даваеннай Лігі Нацыяў.

Шматгадовая праца Рады БНР прывяла да таго, што палітычная супольнасьць на Захадзе прызнала магчымасьць ператварэньня БССР у незалежную дзяржаву пры распадзе СССР. Доўгі час гэтая магчымасьць ставілася пад пытаньне ня толькі камуністычнай намэнклятурай у самой БССР, але таксама і шматлікімі дарадчыкамі і ўрадоўцамі, прадстаўнікамі акадэмічных колаў і прэсы на Захадзе. У рэшце рэшт, калі пачаліся працэсы распаду СССР, Захад ужо быў падрыхтаваны да таго, што Беларусь магла і мусіла стаць незалежнай. Беларускія палітыкі і ўрадоўцы, якія пачалі кантактаваць з сваімі партнэрамі на Захадзе, адразу спаткаліся з гэтым разуменьнем, наўрад ці ўсьведамляючы маштаб і працягласьць працы, якую на Захадзе правяла эміграцыя.

Акрамя гэтага, напрыклад, пасьля Чарнобыля сябры Рады БНР шмат зрабілі для мабілізацыі дапамогі для Беларусі ў заходніх краінах, ад заходніх урадавых, няўрадавых, гуманітарных арганізацыяў. Рада прыцягвала ўвагу ў прэсе заходніх краінаў да той бяды беларускага народа.

**АЧ: Ці было нейкае натхненьне руху за незалежнасьць у Беларусі, Беларускаму народнаму фронту і што было перад ім, з боку Рады БНР? Ці было нейкае ўзаемадзеяньне з грамадзянскай супольнасьцю Беларусі?**

**МП:** Калі казаць пра 80-я гады, такія кантакты, калі былі, маглі адбывацца выключна падпольным чынам.

Паводле саміх заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту і беларускага нацыянальнага незалежніцкага руху ў БССР увогуле, Рада БНР была менавіта натхненьнем. Ідэя таго, што ў Беларусі існавала некамуністычная, несавецкая дзяржаўнасьць, дэмакратычная і нацыянальная, была натхненьнем, але магчымасьці для рэальных кантактаў яшчэ не было.

Пры першай магчымасьці гэтыя кантакты былі навязаныя і яны застаюцца вельмі шчыльнымі да гэтага часу. Рада БНР мае добрыя адносіны з шэрагам найбольш уплывовых прадэмакратычных нацыянальных арганізацыяў і дзеячоў нацыянальнага, незалежніцкага кірунку ў Беларусі і канешне зацікаўлена і вітае пашырэньне гэткіх кантактаў. Гэта тыя людзі, што змагаюцца за рэалізацыю ідэалаў БНР у Беларусі.

**АЧ: Чытачы пытаюцца, я амаль літаральна перадаю, «да якой масонскай ложы належаце?»**

**МП:** (іранічна) Думаю, гэтае пытаньне адлюстроўвае гістарычныя рэаліі часоў братоў Луцкевічаў 90- ці 100-гадовай даўніны. Магу сказаць шчыра, што мне не вядома сярод сяброў усяе Рады ніводнага дэкляраванага сябра масонскай ложы. Больш за тое, што тычыцца кіраўніцтва Рады, магу сказаць, што масонаў сярод іх няма — зь вялікай упэўненасьцю, што будучыя гісторыкі мяне не абвергнуць.

**АЧ: Ясна. А калі гаварыць больш сур'ёзна на канспіралягічную тэму — якія дачыненьні мела Рада БНР з Пэнтагонам, CIA [Цэнтральная выведчая агенцыя ЗША, у расейскім скароце ЦРУ] і іншымі замежнымі выведкамі? Ці было так, што Рада БНР рыхтавалася «заходнімі імпэрыялістамі» як будучы марыянэткавы ўрад для акупаванай Беларусі, калі пачнецца вайна з СССР?**

**МП:** Я б сказаў, што наконт дачыненьняў Рады БНР і замежных выведчых установаў існуюць перабольшаныя ўяўленьні, як вынік прапаганды савецкага часу. Галоўны пункт тут заўжды быў наступны: у любых падобных кантактах Рада БНР у 40-я — 50-я гады натуральна разглядала дзейнасьць для аднаўленьня Беларусі як незалежнай краіны не як штосьці, што цікава найбольш Пэнтагону, а як штосьці, што ёсьць у інтарэсах перадусім самой Беларусі.

У тыя найцямнейшыя часы сталінізму Рада БНР заўсёды шукала любых магчымасьцяў праз стасункі зь любымі інстытуцыямі дэмакратычных краінаў, прыязных ідэі незалежнай Беларусі, паспрыяць справе здабыцьця беларускай незалежнасьці.

ЗША, Вялікабрытанія, НАТО аказаліся натуральнымі хаўрусьнікамі ў барацьбе за Беларусь, незалежную ад Крамля.

У якасьці трагічнага прыклада можам прывесьці Янку Філістовіча, які пагадзўся высадзіцца дэсантам у Беларусі, каб зьбіраць выведчую інфармацыю аб савецкіх ваенных аб'ектах для ЗША. Гэткая была цана за магчымасьць вяртаньня для дзейнасьці ў Беларусі. Філістовіч быў перакананым незалежнікам і сам казаў, што яго галоўная роля ў дэсантаваньні на падсавецкую Беларусь — вывучэньне і, магчыма, арганізацыя ўзброенай барацьбы за незалежнасьць Беларусі, падрыхтоўка абараняць беларускія нацыянальныя інтарэсы ў разе чаканай тады вайны СССР з Захадам. Менавіта дзеля гэтага ён і іншыя паляцелі на Беларусь з мандатамі эмісараў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, а ня проста з шпіёнскім рыштункам ад CIA.

Гэтаксама і роля дзеячоў Рады БНР у стварэньні Беларускай сэкцыі тагачаснага Радыё «Вызваленьне», якое сапраўды знаходзілася пад патранатам CIA, для Рады дыктавалася інтарэсамі справы незалежнасьці Беларусі. Калі інтарэсы адваяваньня незалежнасьці Беларусі натуральна супадалі з інтарэсамі напрыклад ЗША, а не савецкіх вайсковых аб'ектаў на беларускай зямлі, то Рада БНР проста прыймала гэта, як палітычны факт, як магчымасьць для беларускай справы, якую можна было занядбаць ці выкарыстоўваць.

Тут трэба дадаць толькі тое, што Філістовіч і іншыя парашутысты-эмісары БНР былі канешне сьвядомыя дабраахвотнікі і вояры, але гледзячы рэтраспэктыўна — ролю пэўных сяброў тагачаснай Рады ў вярбоўцы тых хлопцаў для відавочна самагубчых апэрацыяў сёньня я маральна апраўдваць не вазьмуся.

**АЧ: Як выглядалі дачыненьні Рады БНР і фашыстоўскіх акупантаў Беларусі? Вядома, што калі ўсталявалася нямецкая акупацыя ў час Другой Сусьветнай і на тэрыторыі заходняй часткі краіны была створана Генэральная акруга Беларусь, мясцовыя дзеячы арганізаваліся пад бел-чырвона-белым сьцягам, называлі сябе пасьлядоўнікамі ідэяў Беларускай народнай рэспублікі, сьвяткавалі 25 Сакавіка. Што можаце сказаць на гэты конт?**

**МП:** Сапраўды, у дэкларацыях Другога Усебеларускага кангрэса, які быў сабраны беларускімі дзеячамі пад нацысцкай акупацыяй улетку 1944 году, ёсьць спасылкі на Першы Усебеларускі кангрэс і абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 г. Але, беларускія ўстановы пад акупацыяй былі створаны без ніякага палітычнага ўдзелу ці сувязі з кіраўніцтвам Рады БНР у Празе. Гэта толькі паказвае на тое, што сама ідэя БНР, як беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці, была ўнівэрсальным, не палітычным, а менавіта нацыянальным сымбалем, які падзяляўся беларускімі нацыянальнымі дзеячамі амаль што любой палітычнай арыентацыі. Таксама, як ніколі не было ні ў каго ніякага іншага беларускага нацыянальнага сьцягу, акрамя бел-чырвона-белага.

Беларусы, якія не жадалі будучыні Беларусі ў сталінскім СССР, незалежна ад стаўленьня да немцаў уважалі 25 Сакавіка проста за сваё нацыянальнае сьвята. Гэта таксама былі і прадстаўнікі Беларускай незалежніцкай партыі, якія вялі адначасова падпольную антынямецкую нацыянальную дзейнасьць, і тыя нацыянальна сьвядомыя беларусы, якія ўжо ваявалі супраць Гітлера ў польскім войску генерала Андэрса пад брытанскай камандай.

Сама ідэя БНР была заўжды па-над палітыкай партый і груповак. Гэтак і Рада БНР ня ёсьць адной з палітычных арганізацый, а хутчэй канстытуцыйнай, дзяржаватворчай структурай.

Урэшце трэба падкрэсьліць і наступны галоўны пункт: нягледзячы на свае імаверныя ілюзіі да 1939 году аб будучай ролі III Райху ў вызваленьні Беларусі ад маскоўскіх камуністычных уладаў, тагачасны старшыня Рады БНР Васіль Захарка адмовіўся ад супрацоўніцтва зь нямецкімі ўладамі, хаця яно яму было прапанаванае. Ён рызыкаваў, бо знаходзіўся ў Празе, пад акупацыяй, і фактычна быў у руках гестапа — аднак ад палітычных кантактаў з нацыстамі адмовіўся.

Таксама і наступны старшыня Рады Мікола Абрамчык, пераняўшы паўнамоцтвы пасьля сьмерці Васіля Захаркі ў 1943 годзе, ніколі ніяк не дэкляраваў ляяльнасьці ад імя Рады БНР да нацысцкіх уладаў і не навязваў ад Рады з імі дачыненьняў.

Пасьля вайны адбыўся падзел беларускай эміграцыі на пасьлядоўнікаў БНР і БЦР. Гэты падзел быў у вялікай ступені на грунце таго, ці магла быць БЦР, сфармаваная пад нацысцкай акупацыяй, нейкім належным увасабленьнем, працягам ідэалаў дзяржаўнасьці 25 сакавіка. Рада БНР ужо на першай сваёй паваеннай сэсіі, вельмі яскрава сьцьвердзіла, што не.

Можна сказаць, што Рада БНР пасьля вайны аднавіла сваю дзейнасьць у такім маштабе таксама з прычыны таго, што беларускай супольнасьці вольнага сьвету патрабавалася сьцьвердзіць прынцыпы менавіта нацыянальнай дэмакратычнай незалежнай беларускай дзяржаўнасьці — без плямаў сувязі з акупацыяй.

На грунце гэтай ідэі, вакол Рады БНР таго часу аб'ядналіся як тыя, хто ваяваў на баку антыгітлераўскай кааліцыі (Рыдлеўскі, Жук-Грышкевіч), так і многія, хто раней працаваў у нейкіх беларускіх установах пад акупацыяй, у тым ліку шэраг удзельнікаў Другога Усебеларускага кангрэсу.

Дзеля гэтага ў Радзе БНР мы маем тую дзяржаўную інстытуцыю, якая ніколі не была заангажавана зь нейкімі ўладамі, якія б дзейнічалі на шкоду Беларусі.

**АЧ: І нават з кайзэрам у 1918 г.?**

**МП:** Дачыненьні з кайзэраўскім урадам былі складанымі. Рэч у тым, што кайзэраўская Нямеччына не знаходзілася ў стане вайны зь Беларусьсю або Ўкраінай, Літвой ці Польшчай. Украінскую Народную Рэспубліку і Літву кайзэраўская Нямеччына па-простu прызнала, абараняла іх інтарэсы на Берасьцейскіх перамовах. Беларуская Народная Рэспубліка, створаная бяз сувязі з якімісьці акупантамі, дамагалася прызнаньня ад кайзэраўскай Нямеччыны, якая фактычна кантралявала тэрыторыю Беларусі.

Спачатку ўстановы БНР былі выкінутыя немцамі са свайго будынку, канфіскавана каса бягучага бюджэту БНР. Потым Рада БНР і яе ўрады атрымалі толькі частковыя паўнамоцтвы, у галіне гаспадаркі, адукацыі, бо кайзэраўскі ўрад выконваў умовы міру з Савецкай Расеяй.

У кожным разе, калі мы кажам пра славутую тэлеграму БНР кайзэру аб будучых дачыненьнях зь Нямеччынай, дык аналягічная ж тэлеграма была пасланая аўстра-

вугорскаму імпэратарскаму ураду. Пры першай магчымасьці камунікацыі са сьветам па-за зонай нямецкай акупацыяй Рада БНР прыняла меры па усталяваньню дачыненьняў з урадамі іншых заходніх дзяржаў — Францыі, ЗША, Вялікабрытаніі і гэтак далей. Ад некалькіх краінаў атрымала прызнаньне дэ-юрэ, ад некаторых дэ-факто.

Рада БНР шукала ўсялякіх палітычных магчымасьцяў для міжнароднага забесьпячэньня незалежнасьці Беларусі ў тых умовах, так, як рабілі ў аналягічным становішчы іншыя новыя дзяржавы.

**АЧ: І з бальшавікамі таксама камунікавалі?**

**МП:** Так, кантакты з бальшавікамі былі. У пэўны момант, калі бальшавікі цярпелі паразы ад Польшчы, яны камунікавалі з прадстаўнікам Рады БНР, найперш у Таліне. Адбыліся перамовы з Чычэрыным. Рада БНР прадставіла бальшавікам афіцыйную ноту, дзе яна патрабавала афіцыйнага прызнаньня з боку Расеі і прыняцьця Расеяй абавязкаў па вывадзе сваіх войскаў з беларускай тэрыторыі. Аднак перш чым Чычэрын адказаў на тую ноту, сытуацыя на фронце зьмянілася, Чырвоная Армія пайшла ў наступ, і адказу на сваю ноту Рада БНР ніколі і не атрымала.

**АЧ: Чым займаецца Рада БНР у сёньняшні час? У прэсе пэрыядычна зьяўляюцца звароты ад сучаснай старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы. Кантакты і ўплыў на палітыку замежных ўрадаў працягваюцца, як я разумею, і зараз?**

**МП:** Пастановы Рады, заявы Старшыні Рады БНР, адрасаваны беларускай і міжнароджнай супольнасьці і афіцыйна сцьвярджаюць тое, як пэўныя пытаньні маюць выглядаць з пункту гледжаньня мэтаў аднаўленьня прынцыпаў 25 Сакавіка ў Беларусі, інстытуцыянальным прадстаўніком і голасам якіх пакуль застаецца Рада.

У сваіх кантактах з замежнымі ўрадамі прадстаўнікі БНР заўсёды падкрэсьліваюць неабходнасьць інструмэнтаў падтрымкі ня толькі, напрыклад, незалежных СМІ, палітычнай і грамадзянскай супольнасьці, але і важнасьці мер шырокай гуманітарнай падтрымкі сем'яў, сваякоў і дзяцей тых, хто пацярпеў ад палітычнага перасьледу. Пры адпаведных нагодах, Рада спрыяе прыцягненьню падтрымкі на карысьць беларускай культуры. У падобных пытаньнях Рада БНР, ніяк не карыстаючыся з такой падтрымкі ўласна, можа ў стасунках з замежнымі ўстановамі дамагацца на карысьць беларускай грамадзянскай супольнасьці чагосьці, чаго прадстаўнікі палітычнай супольнасьці з самой Беларусі, як непасрэдна зацікаўлены бок, могуць быць самі не ў становішчы запытваць.

Можна таксама сказаць аб ролі кіраўніцтва Рады ў арганізацыі заходніх стыпэндыяў для беларускіх студэнтаў, што страцілі свае месцы ў ВНУ праз палітычны перасьлед. Сп. Івонка Сурвілла заўсёды ўзьнімае такія пытаньні на сустрэчах з урадоўцамі заходніх краінаў. Сапраўды, ва ўсіх гэтых справах дзейнічаюць і палітычныя і іншыя недзяржаўныя арганізацыі. Але, унікальнасьць Рады БНР менавіта ў тым, што яна можа прамаўляць з замежнымі ўрадоўцамі на той мове, якая ім найлепш зразумелая — на мове дзяржаўных і нацыянальных інтарэсаў Беларусі, якія мусіла бы агучваць, але не агучвае, улада ў Менску. У такой ролі ніводная недзяржаўная арганізацыя, палітычная партыя, рух, або групоўка арганізацый выступаць ня можа.

**АЧ: Ці да вас прыслухоўваюцца?**

**МП:** Нас слухаюць, да нас прыслухоўваюцца. Зь некаторых рашэньняў ўрадаў, напрыклад, Чэхіі, Эстоніі, ЗША, Канады, і іншых краінаў, пэўных рашэньняў Эўрапэйскага парлямэнта, мы можам зрабіць выснову, што пазыцыі, якія прэзэнтавала Рада БНР, вельмі імаверна сталіся важным чыньнікам, які паўплываў на ўласныя рашэньні гэтых урадаў па беларускіх пытаньнях.

Зрэшты з досьведу можна зрабіць і выснову, што найбольшай увагаю і вагою ў палітычным сьвеце заўжды карыстаюцца тыя супольныя палітычныя пазыцыі, якія мы здольны прадстаўляць міжнароднай супольнасьці як вынік кансэнсусу паміж Радай БНР і найшырэйшым спэктрам палітычных сілаў у Беларусі.

**АЧ: Распавядзіце, калі ласка, пра сёньняшнюю штодзённую працу Рады БНР: хто туды ўваходзіць, як адбываецца яе праца, сходы, як гэта выглядае?**

**МП:** Сэсіі самой Рады БНР у наш час адбываюцца раз на два гады, паседжаньні Прэзыдыюму — паводле патрэбы. Гэта значыць, што на чале Рады стаіць сфармаваны сэсіяй Прэзыдыюм Рады, які далей выконвае, сёньня ў абмежаваным маштабе, функцыі Ураду на выгнаньні.

Прэзыдыюм уключае шэраг сакратарыятаў — дакладней, у большасьці выпадкаў, саміх сакратароў. Сакратарыяты Прэзыдыюму ў такой якасьці зьяўляюцца пераемнікамі Народных сакратарыятаў, гэта значыць міністэрстваў колішняга Ўраду БНР у Беларусі, на чале са Старшынём. Ёсьць таксама Першы заступнік і Заступнік Старшыні, Сакратар Прэзыдыюму і Пратакольны Сакратар, некалькі сяброў Прэзыдыюму без прыналежнасьці да сакратарыятаў

Сярод сакратарыятаў, па-першае гэта Сакратар замежных (вонкавых) справаў. Традыцыйна пасаду Сакратара вонкавых справаў займае сам або сама Старшыня Рады. Гэты Сакратарыят уключае некалькіх сяброў з асаблівымі сэктарамі працы. Таксама маем, напрыклад, Сакратарыят адукацыі, дзе Сакратарам сп. Ала Орса Рамана, інфармацыі, які ачольваю я, ёсьць Скарбнік Рады БНР, камітэт архіўных справаў БНР, Сакратарыят унутраных сраваў, які цяпер ачольвае сп. Вячка Станкевіч.

**АЧ: Чым займаецца Сакратарыят унутраных справаў, калі Рада БНР — у выгнаньні? Якія ў яе могуць быць «унутраныя справы»?**

**МП:** Ён займаецца ўнутранымі канстытуцыйнымі, статутнымі пытаньнямі ў самой Радзе, пытаньнямі паўнамоцтваў і сяброўства ў Радзе, дачыненьнямі з тымі арганізацыямі ў замежжы, якія адносяць сябе да БНРаўскіх і складаюць грамадзкую супольнасьць вакол Рады БНР. Акрамя гэтага, у яго кампэтэнцыі розныя пытаньні статусу і ўсе іншыя пытаньні, што паўстаюць і мусілі бы належаць да міністэрстваў унутраных справаў і юстыцыі — у тым аб'ёме, які магчымы ў эмзылі.

Сакратарыят вонкавых справаў, з прычыны знаходжаньня Рады БНР на выгнаньні, зьяўляецца найбольш разбудаванай структурай і ўключае некалькі асобаў. У яго ўваходзяць таксама намесьнікі старшыні і шэраг іншых сяброў, якія складаюць, так бы мовіць, «калегію» Сакратарыята вонкавых справаў. Я таксама ўваходжу ў яго склад і пераважная частка маёй працы для Рады фактычна датычыцца яго.

**АЧ: Вонкавыя справы — гэта і ёсьць дачыненьні зь іншымі дзяржавамі?**

**МП:** Так, і ня толькі зь дзяржавамі. Гэты Сакратарыят - наступнік міністэрстваў замежных справаў урадаў БНР. Пэўныя зьвесткі пра сучасны склад Прэзыдыюма ёсьць на сайце Рады БНР, які, трэба прызнаць, не абнаўляецца рэгулярна.

**АЧ: Такім чынам, у Радзе прадстаўлена кіраўніцтва эмігранцкіх арганізацый?**

**МП:** Яшчэ ў 1918 г. быў закладзены канстытуцыйны прынцып кааптацыі новых сяброў Рады. Першапачаткова ён быў уведзены з іншай прычыны, каб уключыць у склад Рады сяброў з раней акупаванай немцамі заходняй часткі Беларусі.

Рада была створана Першым Усебеларускім Зьездам (Кангрэсам) як абсалютна паўнамоцны, але часовы орган улады. Рада БНР мусіла заснаваць дзяржаўнае жыцьцё Беларусі і забясьпечыць правядзеньне дэмакратычных выбараў у новыя паўнавартасныя органы ўлады. Гэтым новым органам Рада БНР перадала б свой мандат. Свабодныя выбары, як вядома, не адбыліся з прычыны наступу Чырвонага Войска. Але зь цягам часу магчымасьць кааптацыі аказалася тым статутным інструмэнтам, які дазволіў існаваньне Рады аж да нашага часу.

Новыя чальцы зацьвярджаюцца Радай праз пэўную працэдуру, зафіксаваную ў статуце. Яны кааптуюцца па меры зьяўленьня вакансіяў, што ёсьць натуральны працэс. Звычайна кандыдатуры прапануюцца ад беларускіх грамадаў замежжа, якія стаяць на прынцыпах вернасьці ідэалам 25 сакавіка і падтрымкі Рады БНР ў яе статутных мэтах.

Гэта асобы, якія ў сваёй супольнасьці здабылі належную вядомасьць і давер сваёй адпаведнай грамадзкай пазыцыяй і дзейнасьцю. Яны таксама павінны атрымаць рэкамэндацыі двух сяброў Рады. У канцовым зацьверджаньні на Сэсіі Рада бярэ пад увагу комплекс фактараў, ад палітычнага мінулага ў Беларусі да асабістых абставінаў, каб мець дастатковую пэўнасьць у кожнай асобе, якая прерамае частку адказнасьці за лёс Рады БНР і ўрэшце за выкананьне яе місіі для Беларусі. Яны зусім не абавязкова займаюць кіраўнічыя пасады ў арганізацыях дыяспары, хоць, як прынцып — гэта асобы, якія маюць права сталага побыту ў адной з замежных краінаў.

**АЧ: То бок, яны ня могуць пражываць у Беларусі?**

**МП:** Як прынцып, яны павінны мець права сталага жыхарства за межамі Беларусі.

**АЧ: А чаму так? Чаму сталым жыхарам Беларусі нельга быць членамі Рады?**

**МП:** Рэч у тым, што Рада БНР ня ёсьць проста адной з арганізацыяў-гульцоў на ўнутранай палітычнай арэне ў Беларусі, ня можа стацца там канкурэнтам ніякім з палітычных партыяў ці арганізацыяў. Таму, натуральна, што асобы, якія стала пражываюць у Беларусі, ня могуць адначасова дзейнічаць паўнавартасна на пасадзе ўрадоўцаў Рады БНР у яе статусе «на выгнаньні». Калі зь непрадбачнага зьбегу абставінаў выключэньні могуць здарацца, яны не зьмяняюць прынцыпу.

АЧ: А Зянон Пазьняк член Рады БНР ці не?

**МП:** Не. Сп. Зянон Пазьняк выступае ў ролі спэцыяльна запрошанага дарадчыка Рады БНР на некаторых сэсіях Рады. Мы вельмі высока цэнім яго палітычны досьвед, парады і меркаваньне.

**АЧ: А чаму ж яго не прынялі? Яскравая фігура, і таксама на выгнаньні.**

**МП:** Сп. Зянон Пазьняк не разглядае сябе ў якасьці палітычнага дзеяча беларускага замежжа, ён застаецца лідарам адной з палітычных партый, якая імкнецца да ўдзелу ва ўладзе ў Беларусі. Ён фактычна застаецца так ці інакш партыйным гульцом унутранай беларускай палітыкі ў Беларусі, які сёньня знаходзіцца ў эміграцыі. Так яго бачаць палітычныя сілы ў Беларусі і гэтак ён усьведамляе сябе сам.

**АЧ: Нават нягледзячы на тое, што яго партыя дэманструе найбольшую прыхільнасьць да Рады БНР?**

**МП:** Так, мы маем вельмі добрыя кантакты з лідэрам КХП-БНФ Зянонам Пазьняком, таксама заўсёды знаходзілі аднадумства ў БНФ «Адраджэньне», Партыі БНФ, добрае паразуменьне і з шэрагам іншых палітычных партый і значных палітычных, грамадзкіх фігураў, якія стаяць на прынцыпах ідэалаў беларускай дзяржаўнасьці 25 сакавіка ў Беларусі.

Аднак Рада БНР павінна заставацца па-за партыйнай палітыкай, у гэтым спэцыфіка яе статусу.

Спаборнічаць за галасы на свабодных выбарах, сфармаваць склад новай дэмакратычнай ўлады ў Беларусі, увайсьці ў органы дэмакратычнай улады, вызначаць яе палітыку і кіраваць краінай — усё гэта задача і роля, якая належыць паліты-

кам уласна ў Беларусі.

Са свайго боку, Рада БНР бачыць сёньня сваю найважнейшую задачу і ролю ў тым, каб ва ўсялякі спосаб дапамагчы і наблізіць час, калі ў Беларусі зьявіцца той дэмакратычна абраны ворган улады, якому яна магла б перадаць свае паўнамоцтвы.

З гледзішча Рады галоўны крытэр для каардынацыі дзеяньняў у сьвеце паміж арганізацыямі апазыцыі з Беларусі і Радай БНР у замежжы — найбольшая выніковасьць для справы аднаўленьня беларускай дэмакратычнай нацыянальнай дзяржаўнасьці у Менску. Недаацэнка прадстаўнікамі апазыцыі патэнцыялу і статусу Рады БНР ў замежных кантактах дзяржаўнага, непартыйнага ўзроўню, уражаньне аб чым можа часам складацца, была бы дакладна не на карысьць гэтай агульнай справе.

**АЧ: Пытаньне ад чытача ў Livejournal: ці можна атрымаць пашпарт БНР і як гэта можна зрабіць?**

**МП:** З пашпартамі БНР існуе шэраг мітаў, якія я мушу разьвеяць, і выбачаюся, калі кагосьці крыху расчарую. Пашпарты БНР выдаваліся ў пэрыяд да Другой Сусьветнай вайны з той прычыны, што не існавала дзяржавы на тэрыторыі Беларусі, якая б выдавала беларускія нацыянальныя пашпарты. Беларусь была ў складзе СССР альбо часткова Польскай рэспублікі. Пашпарты БНР выдаваліся для мэтаў падарожжа і пацьверджаньня дзяржаўнай прыналежнасьці, і яны прымаліся для мэтаў іміграцыі такімі краінамі, як Чэхаславаччына альбо, напрыклад, Канада.

У пасьляваенны пэрыяд і да пачатку 70-х гадоў пашпарты БНР выдаваліся амаль выключна замежнікам у якасьці пасьведчаньня ганаровага грамадзянства ў сувязі зь нейкімі заслугамі перад беларусамі, напрыклад у галіне беларусазнаўства. Як прыклад, Гай Пікарда, музыказнаўца і беларусазнаўца, які на працягу дзесяцігодзьдзяў зрабіў надзвычай шмат для пашырэньня ведаў пра Беларусь у Вялікай Брытаніі і на Захадзе і які цяпер пахаваны каля Чырвонага касьцёла ў Менску, быў адным з тых, хто атрымаў такое ганаровае грамадзянства і пашпарт БНР у якасьці пасьведчаньня.

У сучаснай Беларусі грамадзяне маюць пашпарты Рэспублікі Беларусь. Рада БНР прызнае, што сёньняшнія грамадзяне РБ — гэта тыя выбарцы, што ў будучыні мусяць прагаласаваць і сфармаваць тую дэмакратычную ўладу, на карысьць якой Рада БНР урэшце складзе свае паўнамоцтвы. З гэтага вынікае, што гэтым чынам усіх іх Рада БНР прызнае і грамадзянамі БНР таксама.

**АЧ: Была ж ініцыятыва Беларускага Народнага фронта па запісу ў сымбалічнае грамадзянства БНР у канцы 1990-х….?**

**МП:** Рух за сымбалічнае грамадзянства БНР быў распачаты кіраўніцтвам БНФ дзеля ўмацаваньня сярод нядаўніх грамадзян СССР усьведамленьня таго, што яны грамадзяне незалежнай Беларусі ў яе гістарычнай дзяржаўнай пераемнасьці, для згуртаваньня грамадзтва на прынцыпах ідэалаў БНР. У такім ключы Рада БНР ініцыятыву Народнага Фронту тады ўхваліла і пэўнай долі адказнасьці за гэту кампанію зь сябе не здымае. Гэта азначае, што ўсе тыя, хто запісаліся грамадзянамі БНР у рамках той кампаніі, з пункту гледжаньня Рады БНР маюць усе падставы лічыцца сапраўды грамадзянамі БНР, незалежна ад таго, ці маюць яны пашпарт Рэспублікі Беларусь сёньня.

Аднак, сказаўшы гэта, мушу дадаць, што арганізатары таго руху не змаглі перадаць Радзе вычарпальных сьпісаў асобаў, якія запісаліся ў грамадзянства БНР. Некаторым пры гэтым выдаваліся даведкі аб запісе, некаторым не выдаваліся, уласна я даведкі таксама не атрымаў. Тымчасам зьявіліся махляры, якія аднекуль з Баўгарыі прапаноўвалі пасьведчаньні грамадзянства БНР за грошы. З увагі на ўсё гэта, вельмі хутка стала відавочна, што, не атрымаўшы пэўнай дакумэнтальнай базы, пачаць выдачу ад Рады камусьці дакумэнтаў было б недарэчна, немэтазгодна, спарадзіла б падзелы і прэтэнзіі сярод шчырых прыхільнікаў БНР, спрычыніла б больш шкоды, чым карысьці.

**АЧ: Вы казалі, што Рада БНР нясе з сабою «ўвасабленьне дзяржаўнасьці, якая мусіць быць». А ці няма тут такога, што Рада БНР ня будзе задаволеная нават калі ў Беларусі пройдуць дэмакратычныя выбары, але прыйдзе да ўлады партыя кшталту партыі Януковіча ва Ўкраіне — расейскамоўная, арыентаваная перадусім на нейкія прыватныя бізнэс-інтарэсы? Ці ня будзе так, што Рада БНР будзе чакаць, пакуль прэзыдэнтам ня зробіцца «прынц на белым кані»**

**МП:** Можна разважаць аб тым, якія партыі абярэ беларускі народ на першых, пераабярэ на другіх або трэціх свабодных выбарах. Пакуль свабодных выбараў на Беларусі няма, такога прадстаўнічага воргану няма.

Урэшце, падрабязнасьці палітыкі новай улады будуць залежаць ад балянсу палітычных сілаў, які павінны свабодна вызначаць беларускі выбаршчык. Для Рады БНР ідзецца не аб гэтым — ідзецца аб тым, каб у Беларусі існавала адпаведная палітычная сыстэма, незалежная нацыянальная дэмакратычная дзяржаўнасьць, у рамках якой магло б далей дэмакратычна адбывацца беларускае нацыянальнае палітычнае жыцьцё.

Сучасная дзяржаўная ўлада, што пануе ў межах Беларусі, з пункту гледжаньня Рады БНР фактычна страціла прыкметы належнага ўвасабленьня такога роду дзяржаўнасьці — у сэнсе ня толькі сваёй палітыкі, унутранай і зьнешняй і ў бадай што любой галіне, але і ў сэнсе сымбаляў, у сэнсе ідэалёгіі або палітычнай гэнеалёгіі, самога самаўсьведамленьня свайго месца ў сьвеце і гісторыі.

**АЧ: Калі адносіны Рады БНР з дэмакратычнай апазіцыяй у добрым стане, чаму б той апазіцыі тады не прызнаць Раду БНР уладаю замест Лукашэнкі? Альбо чаму б Радзе БНР не пераўтварыцца ў ворган, які б каардынаваў іх дзейнасьць? Чаму б Радзе БНР не зрабіцца сілай на беларускім палітычным полі, калі ўжо няма жалезнай заслоны?**

**МП:** Пэўна, я магу асвятляць толькі погляд Рады, а ня крокі апазыцыі. Наша падтрымка адрасуецца ўсім нацыянальным, дэмакратычным, незалежніцкім сілам, арганізацыям, грамадзянам у Беларусі, якія стаяць за рэалізацыю прынцыпаў 25 сакавіка. У сваім статусе на выгнаньні Рада БНР ня можа выступаць у якасьці партыйнага воргана і гульца на рынку партыйных кааліцыяў, якія ствараюцца і зьнікаюць унутры Беларусі.

Яна заўсёды зьяўлялася захавальнікам пераемнасьці беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці для будучай дэмакратычнай улады ў часы, калі незалежнасьць была страчаная. Яна застанецца палітычным дэпазытарыям беларускай дзяржаўнасьці, пакуль дзяржаўныя прынцыпы 25 сакавіка не рэалізаваныя і для незалежнасьці можа існаваць імаверная небясьпека.

Але сказаўшы гэта, трэба зазначыць, што пры пэўных умовах Рада БНР будзе гатова адыграць і больш важкую ролю ў гісторыі Беларусі. Сёньня я магу ўпершыню агучыць наступную пазыцыю Рады БНР.

Погляд Рады БНР, як і дэмакратычных сіл Беларусі, палягае ў неабходнасьці правядзеньня ў Беларусі новых свабодных прэзыдэнцкіх выбараў, у якіх ня будзе кандыдатам Лукашэнка, які канстытуцыйна страціў права балятавацца. У сувязі з гэтым паўстае пытаньне аб тым, наколькі каляпс рэжыму Лукашэнкі запатрабуе правядзеньня першых выбараў у нейкую канстытуцыйную асамблею, якая зьдзейсьніць пераінсталяцыю, пераўгрунтаваньне дзяржаўнасьці ў Беларусі на дэмакратычных прынцыпах, па аналёгіі з, напрыклад, усталяваньнем «Другой» або «Пятай» рэспублікі ў Францыі.

З увагі на гэта, Рада БНР гатова прадставіць сваю згоду для правядзеньня ў Беларусі новых свабодных выбараў.

Многія палітычныя сілы ў Беларусі ўсьведамляюць, што правядзеньне такіх выбараў будзе зьвязана са складанасьцямі, настолькі, што мы чуем аб патрэбе правядзеньня тых новых, свабодных выбараў пад эгідаю Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, АБСЭ ці кагосьці яшчэ. Мы аднак мяркуем, што выбары ў Беларусі павінны прайсьці, магчыма, з апорай на спэцыялістаў таксама і зь міжнародных структураў, аднак сама палітычная эгіда павінна застацца беларуская. Рада БНР гатовая прадставіць такую эгіду і мяркуе, што правядзеньне новых выбараў у Беларусі на гэтым грунце павінна стацца пунктам кансэнсусу між усімі сіламі, якія выступаюць за аднаўленьне дэмакратыі ў Беларусі.

**АЧ: Ці значыць гэта, што Рада БНР прызнае выбары і гэтага прэзыдэнта лідэрам Беларусі?**

**МП:** Мы ня можам прадказаць зараз дакладна, якімі будуць першыя свабодныя выбары пасьля Лукашэнкі. Сучасная выбарчая сыстэма ЦВК па сутнасьці належыць да аўтарытарнай прэзыдэнцкай сыстэмы ўлады. Лукашэнка зрабіў усё для выдаленьня магчымасьці вяртаньня да дэмакратыі ў рамках сучасных інстытуцыяў дзяржаўнай улады і канстытуцыйных працэдураў РБ. Расьце імавернасьць таго, што гэтая сучасная выбарчая сыстэма таксама не перажыве каляпсу яго рэжыма. Відавочна, з гэтага паўстаюць размовы, што новых выбары павінны будуць праводзіцца незалежнымі спэцыялістамі пад эгідай міжнародных арганізацый.

Але тут паўстае і важнае пытаньне нацыянальнага дзяржаўна-палітычнага прынцыпу. Рада БНР грунтуецца на думцы, што новая дэмакратычная ўлада ў Беларусі не павінна стацца нібыта нейкай крэатурай міжнародных арганізацый, як у Босьніі ці Косава. Гэта павінна быць ад пачатку беларуская справа і ў рамках выключна беларускай дзяржаўнай традыцыі.

Адзіная беларуская інстытуцыя, якая ня ёсьць часткаю апазыцыі ў Беларусі і адначасова не заангажаваная з сучаснай дзяржнамэнклятурай, і якая нясе надпартыйны статус беларускай дзяржаўнаснай інстытуцыі — гэта Рада БНР на выгнаньні.

Рада БНР застаецца гістарычным захавальнікам нацыянальнай дэмакратычнай дзяржаўнай традыцыі БНР для Беларусі ў кожным разе, аднак гатовая гэтым сваім мандатам паслужыць Беларусі так, як будзе патрэбна. Свабодныя выбары пад эгідай БНР могуць стацца той брамай, праз якую беларускі народ палітычна адновіць пераемнасьць са сваёй нацыянальнай дэмакратычнай дзяржаўнай гісторыяй, адначасова расчыніўшы сабе шлях да вольнай будучыні.

**АЧ: Хутка будзе ўжо сто гадоў ад часу заснаваньня БНР, многіх з тых, хто нават 60 гадоў таму быў актыўны, ужо няма ў жывых…**

**МП:** Рада БНР была ў 1918 годзе ўпаўнаважаная як паўнамоцны, але, толькі часовы дзяржаўны ворган Беларускай Народнай Рэспублікі, менавіта да часу і з мэтаю правядзеньня ёю ў Беларусі свабодных выбараў. Пэўна ніхто тады не чакаў, што свабода для Беларусі не надыйдзе так доўга.

Тыя, хто прыняў рашэньне аб працягу існаваньня Рады на эміграцыі ў 20-я гг., пэўна, таксама не чакалі, што калісьці Рада БНР зробіцца найстарэйшай у сьвеце дзяржаўнай інстытуцыяй на выгнаньні.

Аднак, наша краіна сталася выключэньнем у сваім рэгіёне па шмат якіх паказчыках. Тое, што Рада БНР дагэтуль ня мела магчымасьці перадаць свае паўнамоцтвы, толькі сьведчыць аб глыбокай ненармальнасьці таго становішча, у якім застаецца Беларусь.

Сёньня Рада БНР павінна далей заставацца канчатковым гістарычным гарантам, палітычным захавальнікам беларускай нацыянальнай дэмакратычнай незалежнай дзяржаўнай традыцыі 1918 году, пакуль будучыня Беларусі будзе заставацца ў небясьпецы.

*(Перадрук з невялікімі папраўкамі з сайту газэты "Наша Ніва")*

**11 красавіка споўнілася 75 гадоў ад дня нараджэньня славутай беларускай жанчыны, вядомага палітыка і грамадзкай дзеячкі, Старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвілла.**



**Ад імя Рэдакцыі “Беларуса”** віншуем сп. Івонку з гэтым слаўным юбілеем і зычым ёй доўгага і актыўнага жыцьця на радасьць усім прыхільнікам беларускай справы.

***Свае віншаваньні ў рэдакцыю даслалі іншыя сябры сп. Івонкі:***

**- з Таронта**

Уладыка Сьвятаслаў і Рада Парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага маюць гонар павіншаваць спадарыню Івонку Сурвіллу зь юбілеем народзінаў.
Веры Хрыстовай Вам, здароўя і радасьці, шчасьця і творчых зьдзяйсьненьняў, трываласьці і моцы, цярпеньня і зьдзяйсьненьня добрых мараў!
Жадаем Дабраславеньня Божага Вашага жыцьцёвага шляху, дарагая спадарыня Івонка, на добрыя справы дзеля людзей і Беларусі.
Божай Вам Ласкі і Міласьці!

*Таронта, Красавік, 2011*

**- з Нью-Ёрку- ад Фундацыі Крэчэўскага:**

Шаноўная і дарагая спадарыня Івонка Сурвілла!

Віншуем Вас з 75-мі ўгодкамі з дня Вашага нараджэньня і зычым добрага здароўя на многія гады ды працягу актыўнай працы на карысьць Беларускага народу!

Ад юначых гадоў ідэалы свабоды і нацыянальнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі ўвайшлі ў Вашыя думкі і сэрца, як найвялікшыя каштоўнасьці. Служэньне гэтым ідэалам, захаваньне іх у чысьціні і непарушнасьці, шчырае імкненьне далучыць да змаганьня за вольную Беларусь як мага большую колькасьць суродзічаў на Бацькаўшчыне і ў замежжы сталіся сэнсам Вашага жыцьця і Вашаю ахвярнаю працаю.

Любоў да сваёй зямлі і свайго народу таксама знаходзілі цудоўнае ўвасабленьне ў Вашых мастацкіх творах, што памножылі духоўныя скарбы беларусаў і ўзвышалі нацыянальную годнасьць.

Абраньне ў 1997 годзе на пасаду Старшыні Рады БНР усклала на Вас адказнасьць і неабсяжнае кола клопатаў. Праца запатрабавала адмысловых высілкаў бо, менавіта, у гэты час у Рэспубліцы Беларусь выразна паўставаў аўтарытарны лад. Аднак, высока несены па сьвеце Вамі, Старшынёю Рады БНР, бел-чырвона-белы сьцяг гуртуе прыхільнікаў незалежнай Беларусі ды пераканаўчы сьцьвярджае: “Жыве Беларусь!”
Сп. Івонка, дай Вам Божа і надалей памыснасьці ва ўсіх Вашых справах!

*Рада дырэктараў і сябры Фундацыі Крэчэўскага*
*11 красавіка 2011*
*Нью-Ёрк*

## Расправа: суды ў Беларусі

20-гадовы дэмакратычны актывіст Мікіта Ліхавід прысуджаны да трох з паловай год калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Прысуд вынесла суддзя суда Партызанскага раёна Менска Наталля Пыкіна. Пракурор Антон Загароўскі палічыў, што Мікіта Ліхавід прымаў удзел у так званых масавых беспарадках, аказваў супраціў супрацоўнікам міліцыі і ламаў дзверы Дома Урада. Абвінаваўца прасіў пакараць Ліхавіда 4 гадамі калоніі ўзмоцненага рэжыму.



Слуханне па справе Мікіты Ліхавіда пачалося 22 сакавіка ў судзе Партызанскага раёна Менска. Падчас працэсу дапыталі 29 супрацоўнікаў міліцыі. Ніхто з іх Ліхавіда на плошчы ля Дома ўрада 19 снежня не бачыў, прэтэнзій да яго асабіста спецназаўцы не мелі. Пагромаў і падпалаў, акрамя біцця шкла і дзвярэй, яны таксама не бачылі.
Суд над Ліхавідам стаў восьмым па ліку працэсам у справе аб так званых масавых беспарадках у Менску 19 снежня. Раней былі асуджаныя: Васіль Парфянкоў (чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму); Аляксандр Атрошчанкаў (чатыры гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму); Зміцер Новік і Аляксандр Малчанаў (тры з паловай і тры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму адпаведна); грамадзяне РФ Арцём Брэўс і Іван Гапонаў (штрафы ў 300 базавых велічынь); Зміцер Мядзведзь (тры гады абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову).

## Дзярждэпартамэнт ЗША: “Беларускія ўлады працягвалі злоўжываньні”

8 красавіка Дзярждэпартамэнт ЗША абнародаваў штогадовую Справаздачу аб стане правоў чалавека ў сьвеце ў 2010 годзе. Частка справаздачы, прысьвечаная Беларусі, зьмяшчае выразна крытычныя ацэнкі.

Дакумэнт прадставіла ў Вашынгтоне дзяржаўны сакратар ЗША Гілары Клінтан. Яна, у прыватнасьці, заўважыла, што ў 2010 годзе назіраўся маштабны наступ на актывістаў грамадзянскай супольнасьці ў сьвеце. Кажучы пра нэгатыўныя тэндэнцыі, Клінтан назвала абмежаваньне доступу да інтэрнэту ўладамі больш як 40 краінаў. Сярод трывожных тэндэнцыяў, паводле дзяржсакратаркі ЗША, – таксама рэпрэсіі супраць меншасьцяў, якія праводзяцца паводле расавай, этнічнай і рэлігійнай прыкметаў.

У дакумэнце Дзярждэпартамэнту адзначана, што ў 2010 годзе “сур’ёзныя парушэньні” назіраліся ў Беларусі, Расеі і Украіне.

У прэамбуле да беларускага раздзелу гаворыццаі:

”На працягу году ўлады працягвалі рабіць частыя і сур'ёзныя злоўжываньні ў палітычнай сыстэме, у якой дамінуе прэзыдэнт і якая ня мае стрыманьняў і процівагаў.

Улады адмовілі грамадзянам у праве на зьмену свайго ўраду, маніпулюючы на прэзыдэнцкіх выбарах 19 сьнежня, каб выключыць сур’ёзны выклік дзейнаму прэзыдэнту. Правядзеньню выбараў не хапала незалежнасьці і бесстароннасьці; апазыцыйныя кандыдаты апынуліся ў няроўных умовах і мелі абмежаваныя магчымасьці ў СМІ; падлік галасоў адзначаўся адсутнасьцю транспарэнтнасьці.

Сілы бясьпекі зьбівалі затрыманых і пратэстоўцаў, ужывалі празьмерную сілу для разгону мірных дэманстрантаў і, паводле некаторых паведамленьняў, ужывалі катаваньні ў працэсе сьледзтва. Разгон дэманстрацыі пасьля выбараў закончыўся арыштамі больш за 700 актывістаў ды крымінальнымі абвінавачаньнямі супраць пяці кандыдатаў у прэзыдэнты і шматлікіх актывістаў і журналістаў. Паступалі паведамленьні аб жорсткім абыходжаньні са зьняволенымі, умовы ўтрыманьня ў турмах заставаліся надзвычай цяжкімі. Улады праводзілі самавольныя арышты і затрыманьні грамадзянаў за крытыку афіцыйных асобаў, за ўдзел у дэманстрацыях і зь іншых палітычных прычынаў. ..”

## Суды за Плошчу



27 красавіка ў Партызанскім раённым судзе Менску пачаўся крымінальны працэс супраць былога кандыдата ў прэзыдэнты Андрэя Саньнікава, якога абвінавачваюць у арганізацыі масавых беспарадкаў у Менску 19 сьнежня мінулага году, і яшчэ чатырох удзельнікаў акцыі пратэсту супраць несумленных прэзыдэнцкіх выбараў — Ільлі Васілевіча, Алега Гнедчыка, Фёдара Мірзаянава і Уладзімера Яроменка, якіх абвінавачваюць ва ўдзеле ў масавых беспарадках. Саньнікаву пагражае да 15 гадоў зьняволеньня, астатнім — да 8.

## Зміцер Бандарэнка асуджаны да 2 гадоў калоніі

Каардынатара «Еўрапейскай Беларусі» і сябра каманды Андрэя Саннікава судзілі ўсяго адзін дзень. За ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года Міцера Бандарэнку, даверанаю асобу кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Андрэя Саннікава, прызналі вінаватым у «арганізацыі групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак». Суддзя Першамайскага суду Менска Таццяна Равінская пакарала вядомага палітыка і праваабаронцу 2 гадамі калоніі агульнага рэжыму.

## Патрабуюць закрыць «Нашу ніву» і «Народную волю»

Міністэрствам інфармацыі Беларусі 25 красавіка пададзеныя іскавыя заявы ў Вышэйшы гаспадарчы суд аб спыненні выпуску газет «Наша ніва» і «Народная воля».ў сувязі з вынясеннем рэдакцыям названых выданняў на працягу года двух і больш пісьмовых папярэджанняў. Папярэджанні незалежным газетам выносіліся за артыкулы аб выбуху ў менскім метро 11 красавіка і за матэрыялы аб падзеях 19 снежня 2010 года ў Менску, калі была жорстка разагнаная мірная дэманстрацыя супраць фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў і адбыліся масавыя рэпрэсіі.

# Выбух у Менскім метро

11 красавіка на станцы мэтро «Кастрычніцкая» ў Менску адбыўся выбух. Загінула 14 чалавек, 149 паранена, усяго пацярпела больш 200 чалавек.

Міністар унутраных справаў Анатоль Куляшоў паведаміў, што выбухоўка знаходзілася пад лавай на плятформе насупраць другога вагона. Выбухоўка была начыненая мэталічнымі шарыкамі дыяметрам каля 1 см. Магутнасць выбуху склала да 7 кг у тратылавым эквіваленце. Пасьля выбуху ўтварылася варонка ў 80 см.

На момант выбуху на станцы знаходзілася каля 300 чалавек.



## Лукашэнка заявіў, што тэракт раскрыты: «Шукаем саўдзельнікаў і замоўцаў»

13 красавіка Аляксандар Лукашэнка правёў экстраную нараду па выбуху ў мэтро, дзе заявіў:

«Сёньня а 5-й раніцы злачынства было раскрыта. Чэкістам і міліцыі спатрэбіліся суткі, каб учора ў 9 вечара правесці бліскучую апэрацыю і бяз шуму і траскатні затрымаць выканаўцаў. Сёньня а 5-й раніцы яны далі свае паказанні», — заявіў Лукашэнка.

Лукашэнка заявіў, што затрыманыя выканаўцы тэракту у менскім мэтро прызналіся ў зьдзяйсьненьні выбухаў на Дзень Рэспублікі 3 ліпеня 2008 года і раней у Віцебску.

Лукашэнка даручыў дапытаць асобных апазыцыйных палітыкаў у сувязі зь іх заявамі, якія тычацца зьдзяйсьненьня тэракту ў менскім мэтро: «Неабходна расьсьледаваць ўсе заявы дзеячаў ад палітыкі, якія абвінавачвалі каго не лянота». «Мы сёньня шукаем саўдзельнікаў і замоўцаў, можа быць, гэтыя так званыя палітыкі ад пятай калёны нам раскрыюць карты і раскажуць, хто ж замовіў? Можа, хтосьці і з уладаў? Усіх дапытаць! У рамках крымінальнай справы ўсіх прыцягнуць і дапытаць, ня гледзячы ні на якую дэмакратыю і вой і стогны замежных пакутнікаў!»

«Уся гэтая балбатня, дэмакратызацыя, якая нам навязваецца, нічога ня мае агульнага з той сапраўднай дэмакратыяй, якая павінна быць і ёсьць у краіне. Самы жорсткі парадак і арганізаванасьць — гэта аснова нашага выжываньня, і наш народ да гэтага гатовы. Людзі ў Беларусі гатовыя сябе паводзіць так, як трэба».

Кіраўнікам сілавых структураў: «Тыя, у каго вы знойдзеце незарэгістраваную зброю, выбухоўку, … — усіх за краты!»

Арыштаванымі ў справе выбуху аказаліся некалькі жыхароў Віцебска, адзін з якіх быццам бы сам зрабіў выбухоўку.



## Лукашэнка запатрабаваў спыняць любыя чуткі і панічныя настроі

«Любая паніка, у тым ліку з нагоды харчаваньня, валюты, павінна спыняцца. За распаўсюд паклёпніцкіх выдумак вінаватыя панясуць крымінальную адказнасьць…

Дагаварыліся да таго, што ніbыта за гэтым злачынствам стаяць не толькі ўлады, але і вайскоўцы, міліцыя і нават царква. Я распарадзіўся знайсьці гэтых нягоднікаў, затрымаць іх і дапытаць, як сапраўдных злачынцаў…"

### Апытаньні Радыё Свабода :

**У Менскім мэтро адбыўся выбух. Хто спрычыніўся?**

Захад - 1,6%
Расея - 8,9%
беларускія спэцслужбы - 79,8%
апазыцыя - 1,7%
ісламісты - 2,9%
хуліганы - 3%
няшчасны выпадак - 2,1%
Усяго прагаласавала: 2150
Дата: 14.красавіка 2011

**Ці верыце вы, што тэракт раскрыты і затрыманыя сапраўдныя выканаўцы?**

так - 4%
не - 84,1%
ня ведаю - 11,8%
Усяго прагаласавала: 889

### Апытаньне сайту Хартыі 97:

**Хто стаіць за тэрактам у метро?**

Захад (1.6%, 33)
Расея (1.4%, 29)
Апазіцыя (2.4%, 48)
Улады (81.8%, 1669)
Адзіночка (3.9%, 80)
Ісламісты (0.8%, 16)
Не ведаю (8.1%, 166)

### 21 красавіка Аляксандар Лукашэнка выступаў з пасланьнем Нацыянальнаму сходу.

Ягоная прамова была рэкордна кароткай — 2,5 гадзіны. Кіраўнік Беларусі пераважна зьвяртаўся да тэмаў, якія ён закранаў у ранейшых выступах: менскі тэракт, выбары 19 сьнежня, канфлікт з Захадам, валютны і харчовы крызіс, патрэба эканоміі рэсурсаў і замежных інвэстыцый.

Лукашэнка заявіў пра тэракт ў мэтро, што да яго прывяляа залішняя дэмакратыя:"Мы вінаваты самі, найперш, улада вінавата ў гэтым. Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў мы дадэмакратызаваліся да таго, што не толькі вас, але і мяне ванітавала. Было столькі дэмакратыі, што проста ванітавала". Ён заявіў, што апазіцыя, якая атрымала магчымасьць весьці перадвыбарную агітацыю, падбухторвала людзей на розныя парушэньні.

### Дарагія сябры!

Страшная вестка пра выбух у Менску была ўспрынята намі з глыбокім смуткам. Разам з роднымі і блізкімі ахвяраў будзем маліцца аб супакоі іх душаў, веруючы ў Ласку Божую.
Молімся таксама за здароўе ўсіх, каму давялося перажыць гэтую трагедыю, і жадаем хутчэй вярнуцца да звычайнага жыцьця.
Молімся за тое, каб ніколі зло не перамагала дабро. Ніхто не мае права абарваць жыцьцё, даранае Богам.
З глыбокімі спачуваньнямі,

*Рада Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага.*
*Таронта, 2011*

***Спачуваньні родным і блізкім забітых ў Менскім метро выказваюць праз газэту таксама Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і Рада дырэктараў Фундацыі Крэчэўскага.***

# І думаць аб народным сваім існаваньні
## (25-я гадавіна Чарнобыльскай катастрофы)

26 красавіка 1986 года а палове на другую ночы выбухнуў адзін з рэактараў Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, разьмешчанай на мяжы Беларусі і Украіны (на украінскім баку). Велізарная колькасьць радыяактыўнага рэчыва паднялася ў атмасфэру, разносілася ветрам, асядала на людзей, зямлю, траву і дрэвы, кандэнсавалася ў аблоках і хмарах.

У радыюсе 30-ці кілёмэтраў ад станцыі камуністы першым чынам пачалі ратаваць і выганяць за межы вызначанай зоны калгасныя статкі жывёлы. Потым сталі вывозіць адтуль людзей. Тым часам радыяцыя сыпалася на ўсю краіну. Камуністычнае начальства ведала, што насамрэч адбылося, але насельніцтву Беларусі не паведамлялі. Міналі дні, ніякіх захадаў па інфармаваньні насельніцтва краіны не рабілася, ніхто толкам нічога ня ведаў, акрамя чутак пра непаладкі на АЭС і нейкую аварыю. У Гомлі і ў Берасьці, па ўсёй Гомельшчыне камуністычнае начальства сабрала мноства дзяцей на першамайскую дэманстрацыю (рабілі выгляд, што ўсё стабільна і небясьпекі няма). Па ўсёй Беларусі адбываліся першамайскія масавыя ўрачыстасьці.

Увесь сьвет ужо ведаў пра катастрофу, і ўрады стараліся дапамагчы сваім народам пазьбегнуць першага радыяцыйнага ўдару. Нічога не рабілі (больш таго – забаранялі рабіць) толькі ў Беларусі.

Праз два тыдні пасьля выбуху выступіў па тэлебачаньні М. Гарбачоў і прызнаў, што адбылася "аварыя" на Чарнобыльскай АЭС. Тут жа прапагандысты сталі ўсіх супакойваць, што нічога сур'ёзнага ня сталася, што хутка ўсё нармалізуецца, пагрозы жыцьцю і здароўю людзей няма. Пасьля гэтага настала доўгая і трывожная афіцыйная ціша. Сутнасьць жа "аварыі" была добра вядомая камуністычнаму кіраўніцтву.

У кастрычніку 1988 года ў Беларусі ўтварыўся Народны Фронт, які ўзначаліў змаганьне за праўду пра Чарнобыльскую катастрофу. Пачалася сапраўдная і вынікова барацьба з засакрэчаным чарнобыльскім генацыдам. Беларускія вучоныя і Беларускі Народны Фронт аб'ядналі тут свае сілы, і камуністычная хлусьня пачала трашчэць. Была арганізаваная сэрыя экалягічных мітынгаў, выпускаліся інфармацыйныя матэрыялы, улёткі, шмат што ўдавалася надрукаваць у газэтах і часопісах, пісаліся звароты і прапановы і адсылаліся па інстанцыях, мы салідарызаваліся зь лекарамі, эколагамі, чарнобыльскімі ліквідатарамі, БНФ распаўсюджваў інструкцыі для людзей, як ратавацца ад радыяцыі.

У красавіку 1989 года Фронт стварыў арганізацыю "Дзеці Чарнобыля" з мэтай дапамогі атручаным радыяцыяй хворым беларускім дзецям. Першым старшынём яе стаў Мікола Купава, потым арганізацыю ўзначаліў Генадзь Грушавы, і праца набыла шырокі міжнародны размах. Побач утварыліся іншыя фронтаўскія арганізацыі: "Чарнобыльскі камітэт" у Магілёве (кіраўнік Натальля Рослава) і Чарнобыльскі фонд "Сакавік" у Менску пад кіраўніцтвам Марыі Міцкевіч. Неўзабаве ўтварыліся чарнобыльскія арганізацыі за мяжой сярод беларускай эміграцыі. Найбольш знаная – гэта арганізацыя ў Англіі (дзейнасьць айца Аляксандра Надсана) і ў Канадзе (дзейнасьць Івонкі Сурвілы). Да чарнобыльскай дабрачыннасьці падключылася Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" і яго аддзелы. Беларусы ва ўсім сьвеце пачалі ратаваць беларускіх дзяцей – будучыню нацыі.

У гэтым жа 1989 годзе 26 красавіка у трэцюю гадавіну трагедыі Фронт арганізаваў на цяперашняй плошчы Незалежнасьці ў Менску (тады плошчы Леніна) надзвычайнае па сіле эмацыйнага ўražаньня мерапрыемства – "Гадзіну смутку і маўчаньня па ахвярах Чарнобыля". Акцыю не дазволілі камуністычныя ўлады. Але Фронт праігнараваў забарону, спадзеючыся на масавую падтрымку народа. На плошчу прыйшло 10-15 тысячаў людзей з лёзунгамі і транспарантамі на чорным палатне, на якіх былі словы і лічбы пра Чарнобыльскую сьмерць. Цэлую гадзіну пасьля адзінай кароткай прамовы і малітвы людзі стаялі моўчкі з запаленымі сьвечкамі. Кожныя 5-7 секунд у поўнай цішыні званіў "Чарнобыльскі Звон" І так на працягу гадзіны.

Жалобнае маўчаньне тысячаў чалавек пад гукі самотнага звону выклікалі ў людзей навокал вялікае ўзрушэньне. Людзі стаялі ў вокнах дамоў, на бальконах, моўчкі, задумаўшыся і назіралі. Пра Чарнобыльскую трагедыю загаварылі ўсе. 30-га верасьня 1989 года Фронт праводзіць грандыёзнае шэсьце праз увесь Менск -- ад Гадзініькавага завода да плошчы Леніна (Незалежнасьці). Гэта быў першы Чарнобыльскі Шлях. Спэцыяльна з Масквы прыехаў Алесь Адамовіч, расейскі акадэмік Веліхаў, былі беларуская вучоныя, фізікі і эколягі ( Несьцярэнка, Нікітчанка, Пятраеў, Канопля, акадэмік Ліштван і інш).

Міліцыя, АМАП перакрылі тады ўсе дарогі на Менск з Гомельскай, Берасьцейскай, Магілёўскай вобласьцяў. І тым ня менш, першы Чарнобыльскі Шлях сабраў больш за 30 тысячаў чалавек.

Пасьля грандыёзнага маршу і мітынгу на плошчы адбылася ў Чырвоным касьцёле вялікая прэсавая канфэрэнцыя фронтаўцаў, вучоных і грамадзкіх дзеячоў.

Тут жа неўзабаве, у кастрычніку, Фронт арганізоўвае і склікае ў Менску міжнародны грамадзкі Чарнобыльскі трыбунал. Прысутнічалі юрысты, палітыкі, грамадзкія дзеячы і спэцыялісты зь Беларусі, Украіны, Малдовы, краінаў Балтыі, Расеі і іншых. Трыбунал адбываўся ў Чырвоным касьцёле на працягу двух дзён. Спачатку была акадэмія, выступалі з дакладамі спэцыялісты і палітыкі. Потым быў сфармаваны трыбунал, які заслухаў сьведкаў трагедыі – людзей з радыяцыйных зонаў, пацярпелых ад уладаў і ад Чарнобыльскай катастрофы. Пасьля праслухоўваньня сьведкаў быў вердыкт трыбунала, афармлены ў адпаведных дакумантах, якія потым шырока разаслані людзям, арганізацыям, кіраўніцтву і па ўсіх інстанцыях.

Таямніца абвалілася, грамадзтва пачало патрабаваць прыняцьця тэрміновых ахоўных захадаў дзеля здароўя людзей, заклікала да суду над камуністычнымі віноўнікамі трагедыі.

На хвалі змаганьня некалькі дзясяткаў фронтаўцаў, нягледзячы на ўсе перашкоды з боку ўладаў, былі абраныя ў Вярхоўны Савет БССР. Дэпутацкая Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце паставіла пытаньне аб стварэньні ахоўнага чарнобыльскага заканадаўства, аб адсяленьні людзей з зонаў высокай радыяцыі, аб забесьпячэньні іх лякарствамі і чыстым харчаваньнем, аб сацыяльных льготах для пацярпелых і г. д., а таксама аб прыцягненьні да адказнасьці кіруючых камуністаў, вінаватых у непрыняцьці захадаў, у занечышчэньні тэрыторыяў і страце здароўя насельніцтва.

У 1991 годзе, пасьля цяжкай барацьбы з камуністычнай бальшынёй у парлямэнце, што цягнулася больш за год, заканадаўства па Чарнобылю было прынятае. Гэта было вялікае дасягненьне Фронта і іншых дэмакратычных дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня. Не ўдалося, праўда, аддаць пад суд камуністычных кіраўнікоў.

Звышподласьць і антыбеларускасьць кіраўніцтва так званай КПБ-КПСС выразна ілюструе той факт, што калі трагедыя Чарнобыля ўскалыхнула ўвесь сьвет, МАГАТЭ прапанавала тром рэспублікам (Беларусі, Украіне і Расеі) вялікую грашовую дапамогу дзеля ратаваньня людзей ад радыяцыі, але менскія камуністычныя бонзы адмовіліся ад гэтай дапамогі, жадаючы па-халуйску дагадзіць Маскве (сказалі, маўляў, мы самы справімся). Тады грошы МАГАТЭ, выдзеленыя Беларусі, забрала Масква, а беларусы засталіся на сваіх папялішчах.

Чарнобыль – гэта няшчасьце двух народаў: беларусаў і украінцаў. (Радыяцыя на Браншчыне ў РСФСР выяўлена там, дзе жывуць беларусы.) Для беларусаў, аднак, яно перарасло ў трагедыю нацыі. Чвэрць тэрыторыі краіны аказалася моцна засьмечанай радыёактыўнымі доўгажывучымі ізатопамі цэзію, стронцыю, плутонію і інш. Чвэрць ворнай зямлі выключана з сельскагаспадарчага выкарыстаньня. Пэрыяд паўраспаду асноўных ізатопаў цэзія-137 і стронцыя-90 у сярэднім 30 гадоў. Але ёсьць ізатопы, якія будуць існаваць тысячы год. Больш таго, у выніку распаду і ўзаемадзеяньня існуючых ізатопаў уранавай групы ўтвараецца новы радыёактыўны ізатоп амэрыцый-241, і радыяцыйны фон у месцах яго ўтварэньня павялічваецца (у 2,4 разы за сто гадоў).

Радыяцыя (асабліва першы ёдны ўдар) моцна падарвала здароўе беларусаў. Асабліва адмоўна дзейнічае на рэпрадуктыўную функцыю мужчын і жанчын. Выміраньне беларускага насельніцтва напрасткі зьвязана з вынікамі Чарнобыльскай катастрофы і з палітыкай "Чарнобыльская генацыду", якую сьведама праводзіць антыбеларускі рэжым Лукашэнкі (выкарыстаньне забруджаных землях, ліквідацыя ільготаў і дапамогі пацярпелым, накіраваньне моладзі на працу ў радыяцыйныя зоны, распаўсюджваньне радыяцыйна забруджаных прадуктаў і г. д.).

У час аварыі на ЧАЭС вецер дзьмуў на Беларусь. 70% усёй выкінутай радыяцыі апусьцілася на беларускую тэрыторыю. Радыяактыўныя хмары, аднак, маглі пайсьці далёка, аж у Ледавіты акіян, выпадаючы малымі дозамі і рассейваючыся над вялікімі тэрыторыямі (што і сталася з тых хмараў, якія прайшлі праз Эўропу). Шкода ад іх зрабілася не малая. Гэта была плынная (не пастаянная) крыніца радыяцыі, ападкі выпадалі плямамі рознай канцэнтрацыі. Існаваў шанец, што воблакі дасягнуць бязьлюдных прастораў акіяна і там канчаткова разьвеюцца. Аднак тут з боку Масквы быў зьдзейсьнены яшчэ адзін акт злачынства супроць беларусаў.

Маскоўцы вырашылі апусьціць радыяцыйныя воблакі на зямлю, але не на сваю расейскую тэрыторыю, а на беларускую, на галовы беларусаў, нічога не кажучы нават камуністычнаму кіраўніцтву Беларусі. Яны стварылі спэцыяльную эскадрыльлю, задача якой была распыліць адпаведнае рэчыва ў хмарах над Магілёўскай і Гомельскай вобласьцямі і апусьціць такім чынам радыяцыйныя хмары на Беларусь. У выніку на Магілёўшчыне і Гомельшчыне, за 200 кілёмэтраў ад Чарнобыля, радыяцыя сталася канцэнтраванай і вялікай, як у 30-кілёмэтровай зоне каля атамнай электрастанцыі.

Нічога ня ведаючы, што адбываецца, людзі пачалі хварэць (найперш дзеці). Злачынства Масква строга засакрэціла. Але невытлумачальна высокую радыяцыю на Магілёўшчыне і Гомельшчыне выявілі нашыя вучоныя, а Народны Фронт неўзабаве раскрыў і даведаўся, хто гэта зрабіў. Пасьля распаду СССР расейцы пачалі цынічна пісаць пра тыя падзеі і ўсхваляць лётчыкаў, якія выконвалі заказ КПСС. Лётчыкаў адзначылі дзяржаўнымі ўзнагародамі.

У 2006 годзе ў Нью-Ёрк прыехала зь Лёндану здымачная група Бі-Бі-Сі, каб узяць у мяне відэа-інтэрв'ю пра змаганьне з Чарнобыльскай катастрофай. Я расказаў ім пра асаджэньне радыяцыйных хмараў над Беларусяй, даў матэрыялы, прозьвішчы лётчыкаў, месцы іхняга пражываньня. Група паехала ў Маскву і запісала адзінага на той час жывога "героя" злачынства над Магілёўшчынай, нейкага Аляксея Грушына. У 2007 годзе фільм пад назовам "Гульня ў Бога з надвор'ем" (з цыклу "Навука пра супершторм") зьявіўся ў Сеціве і моцна зьбянтэжыў некаторых цемрашалаў у Расеі і Беларусі. Пачаліся абвяржэньні ды фальшывыя разважаньні ў электронным друку.

У гэтым кіно тым часам было дакумэнтальна зафіксавана наўпроставае сьведчаньне пра расейскае злачынства. А. Грушын, думаючы, што яго здымаюць як героя, надзеў мундзір з урадавымі ўзнагародамі і сьведчыў шчыра пра свае "подзьвігі". Ён сказаў, што дзейнічаў тады сьведама і пераканана, што так і трэба было рабіць, бо інакш хмары маглі павярнуцца на Расею, "...і тады пацярпелі б мільёны людзей", -- патлумачыў Грушын.

10-га красавіка я паказваў фільм у залі Беларускага Сабора Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. Гэтыя варварскія словы выканаўцы злачыннага загаду пра матывацыю яго паводзін, відаць, найбольш уразілі прысутных. Мушу зазначыць, што сьведчаньне Грушына -- гэта не прызнаньне цыніка. Тут разважаньні савецкага фундамэнталіста. Грушын – звычайны і тыповы савецкі расеяц, выхаваны ў шчарбатай псіхалёгіі расейскага вайсковага шавінізму, для якога "людзі" – гэта толькі расейцы. Адзначу таксама, што рускія лётчыкі, якія зрабілі гэтае злачынства, ня ведалі, што іх паслалі ў хмары на сьмерць. Па сутнасьці, гэта былі сьмяротнікі. Іх выкарысталі, і яны павінны былі хутка памерці ад радыяцыі, каб ніхто нічога ня ведаў. У 2006 годзе жывым заставаўся толькі А. Грушын, якога журналісты Бі-Бі-Сі пасьпелі зьняць і запісаць. Цяпер і ён ужо не жыве.

Мінула 25 гадоў пасьля катастрофы. Праз 8 гадоў заканчваецца першы паўраспад цэзія-137 , і праз тры гады – стронцыя-90, і радыяцыя ад іх зьменшыцца на палову. Яшчэ праз 30 гадоў яна ўжо будзе меншая ў чатыры разы. Можа нават усяго праз 60 гадоў мы ўжо пачнем вяртацца туды, дзе вечна былі і дзе мы цяпер часова адсутныя. Гэтая наша, цяпер хворая, але запаведная зямля, чакае нас. Патрэбная толькі адна ўмова – каб мы былі, каб засталіся (і ня толькі фізічна).

Мы можам існаваць і спраўдзіцца як нацыя толькі ў Беларусі, толькі на сваёй зямлі і толькі ў сваёй мове. Наша зямля – гэта нашая калыска, наш карабель, які трымае нас разам, побач і прымушае задумвацца аб супольным існаваньні.

Мы ўсе павінны вельмі берагчы наш карабель, рыхтаваць яго ў вечнае плаваньне, не раскладаць агонь на палубе, не дзяўбаць карабельнае дно, не выбіраць капітанам вар'ята.

25 гадоў – гэта цэлае пакаленьне. Чарнобыль нас нішчыць і нябачна існуе разам з намі, прымушае і вучыць нас выжываць, клапаціцца пра будучыню і здароўе, супрацыўляцца і думаць аб народным сваім існаваньні.

*20 красавіка 2011 г.*

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# Брусэльскі Форум: Час прызнаць правал палітыкі Захаду ў дачыненні да Беларусі

25 сакавіка 2011 праходзіў знакаміты Брусэльскі Форум, які сабраў палітычную, эканамічную і інтэлектуальную эліту свету.

Усе апошнія гады Беларусь на гэтым форуме прадстаўлялі каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь», кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў і кіраўнік фонду «Мы памятаем» Ірына Красоўская. У гэтым годзе нашую краіну зноў прадстаўляла Ірына Красоўская, а таксама кіраўнікі Беларускага Свабоднага тэатра Наталля Каляда і Мікалай Халезін і вядомы брытанскі рэжысёр Том Стопард.

Арганізатары адразу ж абвясцілі, што сёння на форуме не могуць прысутнічаць людзі, якія заўсёды былі ягонай «візітнай карткай». Гэта прэзідэнт Нямецкага фонду Маршала Крэйг Кенэдзі і кіраўнік брусэльскага аддзялення Нямецкага фонду Маршала Рон Асмус, якія не змаглі прыехаць па стане здароўя, а таксама кандыдат у прэзідэнты Беларусі Андрэй Саннікаў, які арыштаваны і знаходзіцца вось ужо 3 месяцы ў СІЗА КДБ.

На Брусэльскім форуме прайшла дыскусія на тэму «Ці правалілася заходняя палітыка на Сярэднім Усходзе і ў Паўночнай Афрыцы?». У дыскусіі прымалі ўдзел Вярхоўны прадстаўнік ЕЗ па знешніх сувязях Кэтрын Эштан, сенатар Джын Шахін, якая ініцыявала слуханні па Беларусі ў Сенаце ЗША, і былы амбасадар Егіпта ў Амерыцы Набіл Фамі.

За дыскусіяй праз тэлеканал BBC Word сачыў увесь свет, і тады з аўдыторыі прагучала пытанне, зададзенае дырэктаркай Беларускага Свабоднага тэатра Наталляй Калядой: «Беларускі дыктатар Аляксандр Лукашэнка прадае зброю Лівіі, і Кадафі забівае мірнае насельніцтва і салдат Францыі і ЗША. Сам Лукашэнка сёння развязаў у краіне масавыя рэпрэсіі ў Беларусі і арыштаваў лідэраў апазіцыі. Пара адказаць на пытанне: ці не правалілася палітыка Захаду ў дачыненні да Беларусі?». Кэтрын Эштан і сенатар Джын Шахін адказалі, што яны працягваюць ціск на ўлады Беларусі і не спыняцца, пакуль усе палітвязні не будуць вызвалены.

На Форуме выступіў таксама старшыня Еўрапейскай Рады Хенрык ван Рампей. Прэзідэнт Еўразвяза выказаў сваю салідарнасць і падтрымку ўсім, хто сёння змагаецца за свабоду Беларусі ў Дзень Волі.

# Першы беларускамоўны ліцэй з'явіцца не ў Беларусі, а ў Польшчы

У польскім горадзе Гданьск рыхтуецца да адкрыцця ліцэй, дзе ўсе прадметы будуць выкладацца на беларускай мове.Класы з беларускай мовай навучання, якія адпавядаюць 8-11 класам беларускай сярэдняй школы, пачнуць сваю працу з 1 верасня гэтага года. На пачатку будуць спалучацца формы стацыянарнага і хатняга навучання, у залежнасці ад жадання бацькоў. У выніку вучні будуць атрымліваць адукацыю ў адпаведнасці з прызнанымі ў Польшчы і Еўрапейскім саюзе стандартамі.

Ліцэй будзе існаваць за кошт польскага бюджэту, паведаміў заснавальнік Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, які быў зачынены ў 2003-м годзе і фактычна апынуўся ў падполлі, Уладзімір Колас.

У Польшчы беларускамоўная адукацыя прадстаўлена даволі шырока, напрыклад, працуе кафедра беларусістыкі ў Варшаўскім універсітэце. У гарадах Бельску і Гайнаўцы ёсць два ліцэя і шэраг пачатковых школ, дзе беларуская мова вывучаецца як прадмет. Напрыклад, як асобны абавязковы прадмет мова вывучаецца ў гайнаўскім ліцэі і гімназіі, у II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску Падляскім.

Уладзімір Колас падкрэсліў, што ў гданьскім ліцэі ўсе прадметы будуць вывучацца на беларускай мове, што дазваляецца польскім заканадаўствам. У гэтым сэнсе ліцэй будзе унікальным як у Польшчы, так і ў Беларусі. Уладзімір Колас патлумачыў, што польскія ўлады зыходзяць з таго, што ў сучаснай Беларусі няма зарэгістраваных ліцэяў з беларускай мовай навучання.

Ліцэй будзе існаваць пры Звязе школ інжынерыі навакольнага асяроддзя ў горадзе Гданьск. Гэтая арганізацыя ўжо шэсць гадоў падтрымлівае сувязь з настаўнікамі, выпускнікамі і вучнямі зачыненага Беларускага гуманітарнага ліцэя ў Мінску, з беларускім культурным таварыствам «Хатка», якое аб'ядноўвае беларускую нацыянальную меншасць Памор'я.

Польскае заканадаўства дазваляе аказваць адукацыйныя паслугі таксама і грамадзянам іншых краін — у тым ліку на мовах нацыянальных меншасцяў. Так што ў ліцэй могуць быць прынятыя і выпускнікі старэйшых класаў беларускіх школ. На сённяшні дзень у будучым ліцэі ўжо ёсць каля пяцідзесяці заяў на навучанне на беларускай мове.

У ліцэі будуць працаваць, кажа Уладзімір Колас, высокакваліфікаваныя педагогі з Польшчы і з Беларусі. З апошнімі будуць заключаць адміністрацыйныя кантракты.

У польскіх ВНУ па праграме Каліноўскага зараз навучаецца больш за 250 студэнтаў, у розны час выключаных з беларускіх ВНУ, больш за 30 чалавек навучаецца ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ў Вільнюсе, некалькі чалавек — у ВНУ Эстоніі, Чэхіі і іншых еўрапейскіх краін.

# Падзеі ў Вашынгтоне

6 красавіка Сэнат ЗША распачаў разгляд пытаньня аб падаўжэньні тэрміну дзеяньня "Акту аб дэмакратыі ў Беларусі" – законапраекту, прынятага Кангрэсам у 2004 годзе. Прэзэнтуючы названы дакумэнт, сэнатар Джон Кэры назваў прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі "сфальшаванымі" і дадаў, што нягледзячы на тое, што розныя падзеі ў сьвеце адцягнулі ўвагу міжнародных мэдыяў ад беларускіх справаў, "Злучаныя Штаты не забыліся на Беларусь, і не забудуцца".

15 красавіка законапрект " Акт аб дэмакратызацыі і правох чалавека ў Беларусі 2011" быў разгледжаны і зацьверджаны Камітэтам замежных справаў Кангрэсу. Цяпер Акт перададзены да абмеркаваньня цэлым Кангрэсам, Кангрэсмэн Крыс Сміт ізноў з'яўляецца ініцыятарам законапраекту, як і папярэдніх Актаў аб дэмакратызацыі ў Беларусі. Да яго далучыліся пакуль што 10 са-спонсараў з розных штатаў Амэрыкі.

Выступаючы ў Кангрэсе Крыс Сміт заявіў, што сёлетні Акт патрабуе ўвядзеньня мэтанакіраваных санкцыяў супроць рэжыму ў Беларусі. Ён патрабуе, каб Дзяржэпартамэнт паведамляў для Кангрэсу аб супрацоўніцтве рэжыму з іншымі ўрадамі сьвету ў кантраляваньні Інтэрнэту, аб продажы зброі і аб прыватных банкаўскіх рахунках Лукашэнкі і ягоных вышэйшых чыноўнікаў.

Законапраект патрабуе безадкладнага і безумоўнага вызваленьня ўсіх палітычных вязьняў. У ім таксама выказваецца агульная думка Кангрэсу наконт пашыраных візавых абмежаваньняў і забароны фінансаваньня праз ЗША усіх праектаў, за выняткам гуманітарных, як і падобнай забароны пазычак праз міжнародныя фінансавыя ўстановы.

13 красавіка Кааліцыя Цэнтральна і Усходне Эўрапейскіх краінаў (CEEC) праводзіла сваю штогадовую акцыю Дня Падтрымкі. Сёлета асноўнымі тэмамі былі – разьвіцьцё дэмакратыі і правоў чалавека і мяньшыняў, з асаблівым акцэнтам на сучасныя падзеі ў Беларусі. Сярод іншых тэмаў быў празьмерны ўплыў Расеі на краіны Цэнтральнай і Усходняй Эўропы ды розныя пытаньні геапалітычнай бясьпекі. Прадстаўнікі Кааліцыі наладзілі спатканьні са штабамі ўплывовых камітэтаў і палітыкаў Кангрэсу.

Сёлета ў Акцыі бралі ўдзел прадстаўнікі найбольшых арганізацыяў амэрыканскіх дыяспараў Балтыйскіх краінаў, Чэхіі, Славаччыны, Вугоршчыны, Арменіі, Грузіі, Украіны. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне прадстаўляла, як заўсёды, старшыня Вашынгтонскага Гуртка БАЗА сп. Алеся Кіпель.



*Алеся Кіпель (сядзіць другая злева) сярод удзельнікаў Акцыі*

# Новы посьпех Ірыны Варабей

15-16 красавіка ў Таронта праходзіў чарговы канадыйскі Фестываль рукадзельля – CreativeFestival, у якім разам брала чынны ўдзел беларуская мастачка ў Канадзе Ірына Варабей. Яна прадстаўляла свой уласны мастацкі брэнд"Spirit of Belarus". У пятніцу 15 красавіка адбылася сустрэча мастачкі з прыхільнікамі, якім мелі магчымасьць агледзець персанальную выставу вышыванак Ірыны. Яна пастаянна ўдзельнічае ў гэтых фестывалях і прэзэнтуе там беларускія нацыянальныя традыцыі.

# Незабыўныя сустрэчы

## *(Сяржук Сокалоў-Воюш супраць "чорных сьпісаў")*

Так павялося, што кожны прыезд Сяржука Сокалава-Ваюша ў Беларусь становіцца нешэраговай падзеяй, якая суправаджаецца шматлікімі сустрэчамі, канцэртамі і студыйнымі запісамі новых твораў барда. Цяперашні прыезд Сяржука супаў з аднаўленьнем дзеяньня у Беларусі "чорных сьпісаў", вынікам якіх стала неафіцыйная забарона канцэртаў некаторых беларускіх выканаўцаў, якія па ідэялягічных прычынах не задавальняюць густы тых, хто пры ўладзе. Не зьвяртаючы ўвагі на гэтыя акалічнасьці, Сяржук Сокалаў-Воюш з сябрамі заплянаваў шэраг выступаў у Менску і іншых гарадох краіны.

Сёньня ўсё ж беларуская рэчаіснасьць дае беларусам, якія жадаюць паслухаць песні ў выкананьні любімых артыстаў, некаторыя шанцы. Добра, што яны амаль не залежаць ад ідэялягічных прымхаў сёньняшняй бюракратыі ад культуры. Маю на ўвазе адраджэньне забытых канцэртных формаў, якія былі папулярнымі ў мінулым стагодьдзі, калі з'явіўся такі панятак, як "перабудова". Менавіта тады сталі праводзіцца міні-канцэрты на прыватных кватэрах і гэтая з'ява атрымала назву "кватэрнікаў". Для правядзеньня "кватэрніка" патрабаваліся ўмяшчальныя прыватныя пакоі, далей ад "вачэй і вушэй" міліцыі ці спэцслужбаў. Патрабаваўся, таксама, добрая гукаізаляцыя, каб звышпільныя суседзі не паклікалі супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Менавіта гэтыя патрабаваньні былі выкананыя, калі шматлікія сябры і прыхільнікі творчасьці С. Сокалава-Воюша прапанавалі правесьці барду "кватэрнік" ў цэнтры сталіцы Беларусі.

І вось некалькі дзесяткаў слухачоў запоўнілі прыватную кватэру, якую на невялікі час арэндавалі для канцэрта Сяржука Сокалава-Воюша. Многія з прыхільнікаў песень Сокалава-Воюша прывялі сваіх дзетак, якія гульнямі і нязмушанымі паводзінамі стваралі ў кватэры атмасфэру сьвята. А дзядзька Сяржук ад душы частаваў іх цукеркамі, марозівам і сокам. Дарослыя ж наведвальнікі каштавалі новы гатунак знакамітай "Крамбамбулі" на кедравых гарэшках і спрачаліся на тэму - ці расьце ў Беларусі сібірскі кедр...

Але за гэтымі прыемнымі момантамі людзі не забываліся навошта яны сабараліся тут: пад аплядысменты "кватэрнік" распачаўся выкананьнем знакамітага лірыка-патрыятычнага гімна маладых адраджэнцаў 80-90 гадоў мінулага стагодьдзя – песьняй "Аксамітны летні вечар". Усе прысутныя на гэтым канцэрце ўпаўголаса заспявалі дарагую іх сэрцу мелёдыю і незабыўныя словы. Для кожнага з прысутных гэтая песьня мела сваю гісторыю і сымбалізм...

Далей Сяржук Сокалаў-Воюш распавёў, што правядзеньне канцэрта-"кватэрніка" для яго не навіна. Такую форму і раней, і цяпер ён выпрабаваў у родным Наваполацку і іншых гарадох і вёсках краіны, дзе сьпяваў для сваіх сяброў. Цяпер ён ў гасцёх у сталічных прыхільнікаў. А яшчэ гэты "кватэрнік" стаў нагодай для прадстаўлення новых песень і будучых альбомаў барда. Сяржук паведаміў, што ў яго на падыходзе новая



кружэлка, якая будзе называцца "Граблі". Лейтматыў галоўнай песні альбома прыблізна такі: "Наступаем на граблі да поўнай перамогі!" Па словах аўтара, новыя песні з альбому "Граблі" будуць спробаю глянуць на праблемы беларусаў трошкі адасоблена, але без злосьці і з гумарам. Па словах Сяржука, хутка пачнецца запіс песень для новай кружэлкі і ў гэтым барду дапаможа сябра і вядомы менскі рок-музыка Андрэй Плясанаў.

Яшчэ адзін напрамак творчасьці барда – пераклады на беларускую мову тэкстаў вядомых песень і рамансаў. Некаторыя з іх вельмі артыстычна і пранікнёна выканала сьпявачка Тацьцяна Грыневіч-Матафонава. Гэта і знакаміты "Паланэз Агінскага" на словы Сяржука, і "Сьвяціся зорачка мая", якая з'яўляецца ні чым іншым, як пераўвасабленьнем раманса "Свети, свети моя звезда". У беларускім перакладзе Сокалава-Воюша гэтыя творы набылі новыя, незвычна сьвежыя адценьні і блізкую беларусам эмацыянальную глыбіню. Дарычы, Тацьцяна разам з сынам Адасём пад шчырыя апладысменты слухачоў выканала шэраг песень з ужо вядомага айчынным слухачам "Дзіцячага альбома".

Як вопытны арганізатар непадцэнзурных музычных імпрэзаў, Сяржук Сокалаў-Воюш запрасіў да сябе ў госьці шмат выканаўцаў, якія адрозніваюцца па музычных і паэтычных прыхільнасьцях, працуюць ў іншых стылёвых напрамках. І адным з такіх гасьцей стаў майстар-гусьляр, музыкант гурта "Стары Ольса", стваральнік гурта "Ceilidh Ceol" Алесь Чумакоў. Нагадаю, што ўдзельнікі "Ceilidh Ceol" выконваюць ірляндзкую, шатляндзкую і брэтонскую старажытную музыку, але тэксты перакладаюць па-беларуску. Вось і падчас свайго "кватэрніка" Сяржук запрасіў Алеся у якасці альтэрнатыўнага выканаўцы, каб той паказаў некалькі старажытных ірляндзкіх мелодый з беларускімі тэкстамі. Асабліва захапіла ў выкананні А. Чумакова баляда "Рудніцкая пушча", героем якой стаў адзін з удзельнікаў паўстання 1863 года Л. Нарбут. Таксама, слухачы горача віталі лірычна-гераічныя ірляндзкія песьні, якія, дзякуючы перакладам Алеся, сталі набыткам і беларускай музычнай культуры. Маю на ўвазе такія творы, як "А ніколі болей", "Мяне ты клічаш, мая Радзіма", "За Радзіму, за герояў", "Стары слаўны час" на верш Роберта Бёрнса.

Дадаў разнастайнасці праграме "кватэрніка" малады бард Раман Яраш, які ў гэты вечар іграў у дуэце з музыкантам гурта "Князь Мышкін" Віктарам Сямашкам. У незвычайнай манеры выкананьня Раман прадставіў слухачам свае інтэрпрэтацыі верша У. Караткевіча "Быў. Ёсць. Буду.", пераклады песень Б. Грабеншчыкова і іншыя творы са свайго рэпертуару. Прыцягнула ўвагу слухачоў і музычная паэма на вершы В. Сямашкі "Мінскі метрапалітэн", якую ва ўрбаністычнай манэры выканалі Раман і Віктар.

Але, удзельнікі "кватэрніка" не імкнуліся запоўніць толькі сабою гэтую хатнюю музычную сустрэчу і раз-пораз давалі слова галоўнаму госьцю - Сяржуку Сокалаву-Воюшу, які ўвесь час сьпяваў старыя і новыя свае песьні, распавядаў пра сваё супрацоўніцтва з айчыннымі музыкантамі, з землякамі з Латвіі, знаёміў з новымі перакладнымі творамі. У выкананьні барда прагучалі такія знакамітыя песні мінулага часу, як "Журавы", "Зямлянка", "Ёсць толькі мах" ("Есть только миг" Л. Дзербянёва і А. Зацэпіна). Тацьцяна Грыневіч-Матафонава таксама дадала сваімі сьпевамі шмат станоўчых уражаньняў ад новых словаў старых песень і завяршыла "кватэрнік" выкананьнем раманса з кінафільма "Гадзіннік спыніўся апоўначы" ў беларускім перакладзе С. Сокалава-Воюша. Стрэлкі ж гаспадарскага гадзінніка імкліва набліжаліся да 23 гадзін. Таму было вырашана імпрэзу завершыць: слухачы дзякавалі Сяржуку за новыя і старыя песьні, якія засталіся актуальнымі ў гэты не просты для нацыі час, фатаграфаваліся са знакамітым земляком, даўнім сябрам нацыянальнага беларускага руху.

...Калі госці імпрэзы пачалі разыходзіцца, то паўсюль з пакояў кватэры можна было пачуць мелёдыю і словы песень Сяржука Сокалава-Воюша, якія так глыбока пранікалі ў сэрцы тых, хто пачынаў свой беларускі шлях яшчэ ў "Талацэ" ці "Майстроўні", і тых, для каго беларушчына – пакуль ў многім "тэра інкогніта":

*Аксамітны летні вечар ахінуў зямлю*
*Я вазёрную сінечу вуснамі лаўлю.*
*Моўчкі слухаю ў росах песню салаўя.*
*Над маім лунае лёсам Беларусь мая.*

Не дзіва, што такія напаўпадпольныя музычныя сустрэчы адбыліся ўжо не аднойчы. "Кватэрнікі" ўваходзяць у моду: Сяржук Сокалаў-Воюш меў музычную сустрэчу з сябрамі і прыхільнікамі музыканта, якія прадстаўлялі рэгіён Ашмяншчына-Астравеччына-Смаргоншчына, а таксама сустрэўся зудзельнікамі Менскага турыстычнага клюбу, для якіх прасьпяваў старыя і новыя песні са свайго рэпертуару.

*Анатоль Мяльгуй*
*Менск*

# Каляндар памятных датаў на травень 2011 году

**1 траўня** – 105 гадоў таму, у 1906 годзе, нарадзілася Аляксандра Бергман, дасьледчыца гісторыі, вязень савецкіх канцлягераў

**1 траўня** – 25 гадоў таму, у 1986 годзе, памёр Сьцяпан Александровіч, літаратуразнавец, краязнавец

**3 траўня** - Сусьветны дзень свабоды друку

**6 траўня** – 85 гадоў таму, у 1926 годзе, памёр Казімір Сваяк, каталіцкі сьвятар, паэт

**8 траўня** – Сусьветны дзені Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца

**8 траўня** – 560 гадоў таму, у 1551 годзе, памерла Барбара Радзівіл, вялікая княгіня літоўская і каралева польская

**15 траўня** – 40 гадоў таму, у 1971 годзе, у Лёндане адчынілася Беларуская бібліятэка і музэй імя Францішка Скарыны

**15 траўня** – 75 гадоў таму, у 1936 годзе, нарадзіўся Барыс Сачанка, пісьменьнік і публіцыст

**17 траўня** – 80 гадоў таму, у1931 годзе, у маскоўскай турме памёр мітрапаліт Мельхісэдэк, праваслаўны царкоўны дзеяч

**18 траўня** – Міжнародны дзень музэяў

**18 траўня** – 105 гадоў таму, у 1906 годзе, у Пецярбургу заснавана Беларуская выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца"

**23 траўня** – 65 гадоў таму, у 1946 годзе, у маскоўскай турме НКУС памёр Кастусь Езавітаў, дзеяч нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня

**24 траўня** – Дзень славянскай пісьменнасьці

**26 траўня** – 85 гадоў таму, у 1926 годзе, заснавана Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне "Узвышша"

**27 траўня** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, у Менску створана Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, адбыўся Кангрэс беларусістаў

**30 траўня** – 185 гадоў таму, у 1826 годзе, нарадзіўся Зыгмунт Серакоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64 г.г.

**31 траўня** – 15 гадоў таму, у 1996 годзе, у Іркуцку створана Таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага

**ЗАПРОСІНЫ**
**на Парафіяльнае Сьвята Парафіі**
**Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне**
**Нядзеля, 15 траўня, 2011**

Сьвяткаваньне пачнецца а 10-й гадзіне раніцы урачыстай Архірэйскай Багаслужбай у Саборы БАПЦ на 401 Atlantic Ave. з удзелам яп. Сьвятаслава з БАПЦ, япіскапаў Украінскае Царквы й духавенства.

Пасьля Багаслужбы, у парафіяльнай залі адбудзецца ўрачысты сход з абедам, на якім будуць прывітаньні, прамовы й жаданьні ад прысутных і ад іншых прыслаўшых свае прывітаньні.

Усе запрашаюцца на сьвята Парафіі.

*Парафіяльная Рада Сабору*
*Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.*

## Паведамленьне

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня паведамляе, што чарговы Кангрэс Беларуска-Амерыканскага Задзіночаньня адбудзецца у суботу 28 траўня 2011г., пад адрасам: 9 River Rd. Highland Park, NJ, пачатак а 1:30 гадзіне папаўдні.

Старшыняў аддзелаў просім правесьці на сваіх справаздачна-выбарчых сходах адначасна і выбары дэлегатаў на Кангрэс. Трэба выбіраць па адным дэлегаце ад пяцёх поўнапраўных сяброў аддзелу і ня цэлай пяткі, ад гуртка - 1 дэлегат. Старшыняў аддзелаў і гурткоў просім падрыхтаваць справаздачы аб дзейнасці за апошнія 2 гады.

## Дзякуй!

Зусім нядаўна давялося мне пабываць на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў грамадзкай залі пры Парафіі Сьв. К. Тураўскага у Брукліне.

Прайшлі тыдні, а я з вялікай прыемнасьцяй узгадываю гэту сустрэчу. Як пабыў як дома, як сустрэўся са сваякамі. Цешыла душу сяброўская атмасфера на сустрэчы, цудоўная культурная праграма, смачныя і здаровыя стравы.

Сьцены залі былі багата ўпрыгожаныя творамі мастацтва беларускіх мастакоў, дакумэнтаў і кніг. Таксама ўразілі арганізацыя і магчымасьці відэа і гука абсталяваньня, якое дазваляла хутка знайсьці любыя патрэбныя відэа і гука матэрыялы і якасна дэманстраваць прысутным.

Як патлумачылі мае новыя сябры за маім сталом, царкоўная рада і парафіяне пастаянна працуюць над паляпшэньнем стану будынка, актыўна ўдзельнічаюць у рэлігійным і грамадзка-культурным жыцьці Беларускага асяродку Новага Ёрка і Амэрыкі.

Яшчэ раз вялікі дзякуй усім арганізатарам.

*Аляксей В.*

***Ад рэдакцыі: арганізатарам сьвяткаваньня, пра якое піша сп. Аляксей , быў Бруклінскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня.***

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

Галіна Бахар і
Барыс Гайда - $ 100
Ніна і Сімон Дудар -$ 60
Кон Уорт - $ 75
Міхась Швэдзюк - $50
Марыя Мароз - $50
Алесь Мароз - $ 50
Міхась Раецкі - $ 50
Марыя Мігал - $50
Беларускае Аб'еднаньне
у Заходняй Аўстраліі –$ 245
Е. Літаровіч – $50
Я. Кулін – $ 20
Сп-ва Махнач – $50
Н. Ганчарук - $50

***Выказваем шчырую падзяку ўсім ахвярадаўцам!***

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Андрусь Падлескі – адказны за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыялямі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*

## У Нью-Ёрку прайшоў вечар салідарнасці з беларускімі палітвязнямі

Беларускі Свабодны тэатр правёў вечар салідарнасці з беларускімі палітвязнямі 19 красавіка ў нью-ёркскім тэатры LaMama.

У гэты вечар гледачы змаглі ўбачыць спектакль "Спасцігаючы каханне", створаны на аснове дакументальнага матэрыялу, які распавядае пра гісторыю кахання Ірыны і Анатоля Красоўскіх і аб трагедыі, якая напаткала іх сям'ю. Пасля спектакля адбылася грамадская дыскусія з удзелам дырэктара тэатра Наталлі Каляды і выканаўчага дырэктара праваабарончай арганізацыі Amnesty International Лары Кокса.

Пасля завяршэння грамадскай дыскусіі, у знак салідарнасці з беларускімі палітвязнямі, гледачы фатаграфаваліся з іх партрэтамі.

